PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (2041) ГОД XL БЕЛАСТОК 25 ЧЭРВЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Усім вучням жадаем прыемнага летняга адпачынку.*

## Столькі цікавага задарма!

У Пачатковай школе ў Чаромсе практыкуецца цікавы лінгвістычны эксперымент. Жадаючыя могуць вывучаць беларускую мову, але толькі да пятага класа. Далей беларуская мова не навучаецца, бо тады пачынаецца навучанне... рускай. „Розніца між гэтымі мовамі невялікая, — кажа дырэктар школы Мікалай Міхалюк, — тыя, што хадзілі на ўрокі беларускай мовы, ведаюць ужо кірыліцу, калі астатнія толькі яе пазнаюць".

Ад новага года моўны каларыт у чаромхаўскай школе яшчэ пашырыцца. На стале ў дырэктара 70 заявак бацькоў, якія хочуць, каб іхнія дзеці вучыліся ўкраінскай мове. „Nie wiem jak oni to sobie wyobrażają, — задумоўваецца дырэктар, — bo chcą języka ukraińskiego aż od pierwszej do ósmej klasy".

Жаданне навучаць „рідну" ўкраінскую мову ў Чаромсе выявіў бельскі Саюз украінцаў Падляшша. Пад лістом-прашэннем падпісаўся сакратар арганізацыі Юры Гаўрылюк. Каардынаваць акцыю на месцы мае бяздзетны студэнт Славамір Саўчук. Даць настаўніка абяцаў СУП.

„Хадзілі ў нас два такія маладыя хлопцы, прыезджыя, — расказваюць жыхары Чаромхі-вёскі. — Будуць спевы, танцы, экскурсіі, намаўлялі падпісвацца. А нам што, за англійскую мову трэба плаціць, а тут столькі цікавага задарма".

З разгону падпісаліся нават тыя, чые дзеці вывучаюць „родную" беларускую мову. „То вы хочаце ліквідаваць беларускую мову ў нашай школе?" — пыталася ўсхваляваная настаўніца з філіяльнага пункта ў Чаромсе-вёсцы Галіна Саўчынская. Тады толькі жыхары Чаромхі-вёскі зразумелі сэнс сваіх подпісаў. І напісалі новыя заяўкі, у якіх адмаўляюцца ад ранейшай просьбы, бо гэта „uniemożliwi naszym dzieciom nauczanie języka białoruskiego (ojczystego)".

Украінскія прасветнікі звярнуліся за дапамогай таксама да мясцовага святара. Айцец Юры Пліс у адказ на гэтую прапанову публічна выказаў патрэбу навучання ў школе... беларускай мовы. Раней служыў ён на прыходзе сярод украінцаў, на поўдні Польшчы.

* * *

Частка выпускнікоў чаромхаўскай школы працягвае навуку ў беларускіх ліцэях. Ці не далося б працягваць навучання беларускай мовы да восьмага класа, пытаемся дырэктара.

„А што мы можам, — расклаў рукі спадар Міхалюк, — што мы можам..."

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**

## Усё менш чытачоў беларускіх кніжак

У Беластоцкім ваяводстве беларускія кніжкі маюць 28 самаўрадавых публічных бібліятэк. Гэта, між іншым, гарадскія бібліятэкі ў Бельску-Падляшскім і ў Гайнаўцы, мейскагмінная ў Кляшчэлях ды адзінаццаць гмінных і чатырнаццаць бібліятэчных філіялаў у т.зв. „усходняй паласе" Беласточчыны. У іх да 1990 года было 12 272 беларускія кніжкі і ў 1994 годзе асталося 8 057. Найбольш беларускіх кніжак маюць бібліятэкі ў Бельску-Падляшскім (2 816), у Нараўцы (848) і ў Чыжах (755). У 1990—1994 гадах новыя кніжкі купілі бібліятэкі ў Дубічах-Царкоўных (400), Чыжах (370) і ў Нарве (122). Варта дадаць, што ад 1991 года няма беларускіх кніжак у ніводнай кнігарні. Раней былі яны ў вызначаных пунктах продажу ў Беластоку, Бельску-Падляшскім і ў Гайнаўцы.

Паводле даных Ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку, у 1993 годзе беларускую літаратуру чыталі ўсяго 142 асобы. Не чытаюць іх — міма таго, што яны ёсць у тамашніх бібліятэках — між іншым у Шудзялаве, Крынках, Белавежы і ў Мілейчыцах. Па адным (!) чытачы беларускіх выданняў маюць бібліятэкі ў Чаромсе і ў Гарадку. Колькасць чытачоў, якія ведаюць беларускую мову, на жаль, з кожным годам усё змяншаецца... На гэта мае ўплыў і той факт, што ў самаўрадавыя бібліятэкі не купляюць новых беларускіх кніжак, між іншым, членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Амаль што зусім няма таксама беларускіх кніжак для дзяцей!

Рэдка дзе на бібліятэчнай паліцы знойдзем „Ніву". Не ўбачыце яе ў Міхалове і ў Шымках, а таксама ў Кляшчэлях і ў Чаромсе.

Шматлікія прычыны склаліся на тое, што зацікаўленне роднай беларускай мовай падае. Пра гэта трэба пісаць. Хто і што мае зрабіць, каб было больш зацікаўленых беларускай кніжкай і прэсай?.. Заахвочваю да дыскусіі.

**Янка Целушэцкі**

## Выбары без выбараў

**Размова з Сяргеем Абадоўскім — старшынёй Магілёўскай абласной рэгіянальнай арганізацыі Свабодных прафсаюзаў Беларусі.**

*— Што паводле вас здарылася 14 мая на Беларусі?*

— Па-першае: вынікі рэферэндуму і выбараў у Вярхоўны Савет абазначаюць вяртанне назад, але толькі для ўлад нашай дзяржавы. Савецкія сімвалы, якія яны цяпер прывярнулі, будуць паказваць, якая менавіта ў нас улада, а народ, я думаю, не забудзецца ні сцяга ні герба, якія стагоддзямі пратрывалі ў свядомасці патрыётаў. Не загінуць яны нягледзячы на тое, ці гэтага хоча ці не хоча Лукашэнка і яго акружэнне.

*— Але ці Беларусь пасля рэферэндуму гэта ўсё яшчэ тая самая дзяржава, якая была да 14 мая?*

— Рэферэндум гэта толькі чарговая перамога тых сіл, якія імкнуцца аб'ядначацца з Расіяй. Думаю, што ў снежні адбудзецца чарговы рэферэндум, у якім будзе пастаўлена пытанне аб аб'яднанні менавіта Беларусі і Расеі. Што гэта абазначае для Беларусі — вядома. Аднак гэтая здрадніцкая палітыка Лукашэнкі нікуды нас не прывядзе, можа толькі нас наблізіць да канфлікту, якога пасьлядоўнасці цяжка прадбачыць. 30% насельніцтва рашуча выказваецца супраць аб'яднання з Расіяй і не хоча ніякага новага Савецкага Саюза.

*— Думаеце, што Лукашэнка паставіць яшчэ і пытанне аб самаліквідацыі дзяржавы? „Аб'яднанне" на практыцы мае толькі такі сэнс.*

— Так, бо расійская Дума ўключыла ў парадак прац парламента пытанне аб правядзенні рэферэндуму ў Расіі і Беларусі наконт спалучэння абедзвюх дзяржаў. Вынікі такога рэферэндуму ў Расійскай Федэрацыі лёгка прадбачыць. Нашыя здраднікі будуць так, як да гэтай пары, спрыяць такому працэсу.

*— Да выбараў пайшло 64% грамадства, з таго 20% галасавала супраць Лукашэнкі, што абазначае, што менш чым палова грамадзян актыўна падтрымала прэзідэнта. Ці ёсць у грамадстве адчуванне, што змены сімвалаў адбываюцца цяпер незаконна?*

— Не, большасць зусім не ведае, у чым сутнасць справы і што вакол іх дзеецца. Асабліва сяляне, калгаснікі вераць уладам і ўрадавым прапагандыстам. Гэта людзі, якія думаюць, што Расія ім нешта дасць. Усе жывуць часам Савецкага Саюза, калі „давалі". А Расія цяпер не дае нічога, нават сваім грамадзянам, а толькі кажа: „зарабіце".

*— Ці Свабодныя прафсаюзы маюць нейкі план паўстрымання гэтых працэсаў?*

*Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

**Лукашэнка і дэмакратыя**

*Czwarte pytanie postawione w referendum przez Łukaszenkę dotyczyło prawa rozwiązywania parlamentu przez prezydenta. Prezydent takie prawo dostał i choć nie zatwierdzone, już funkcjonuje jako wola ludu. Prezydent już jest uprawniony do rozwiązywania parlamentu, chociaż parlamentu jeszcze nie ma i nie wiadomo kiedy będzie.*

*Polityka, nr 22*

А кому он нужен, тот парламент?

* * *

**Беларусы дыскутуюць на старонках польскай прэсы**

*Jeżeli S. Janowiczowi Białorusini jawią się takim obrzydliwym sowieckim motłochem, więc nikt tego mądrali nie przymusza zwać się Białorusinem, niech będzie łaskaw zwolnić nas, Białorusinów, od przynależności swojej „wybitnej" osoby do naszej nacji. Będziemy szczęśliwi,* — піша Мікола Гайдук.

*Kurier Poranny, nr 124*

Нармальны сяброўскі абмен думкамі.

* * *

**З гісторыі**

*W latach 1941—1944 w Ponarach koło Wilna zgładzono przeszło 100 tys. osób, w tym około 70 tys. polskich Żydów, ponadto Polaków, Rosjan i Cyganów. Zbrodni tej dokonały wyłącznie Litewskie Formacje Specjalne, przy udziale litewskiej policji oraz ochotników litewskiej młodzieży, w tym uczniów szkół średnich.*

*Gazeta Współczesna, nr 109*

* * *

**Бізнес**

*W Polsce pieniądze wciąż się daje. Nadal nie ma systemu płac związanego z efektywnością. Dyrektor, który doprowadza zakład do bankructwa, zarabia 50 mln zł., a pracownik 2,5 mln.*

*Wprost, nr 23*

*

*Na Zachodzie od kilku lat utrzymuje się duży popyt na polskie dzieci. Oficjalnego cennika nie ma, ale wiadomo, że za zdrowego polskiego chłopca cudzoziemcy płacą 25 tys. dolarów. Dziewczynka kosztuje o 5 tys. mniej. Niedawno reporterowi szwedzkiej telewizji udało się kupić w Polsce niemowlę za jedyne 450 zł.*

*Wprost, nr 23*

*

*Rosyjscy turyści w 1994 r. wywieźli z Rosji za granicę 12 miliardów dolarów. Natomiast zagraniczni turyści zostawili w Rosji 4 mld dolarów.*

*Głos znad Niemna, nr 18,*
*organ Związku Polaków na Białorusi*

* * *

**Свабода ў краіне Мао**

*Na dożywocie został skazany Yn Zhijian za obrzucenie jajkami portretu Mao Tse-tunga na Placu Niebiańskiego Spokoju w Pekinie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 126*

Кітай — краіна прагрэсу і працавітых людзей. Праўда, таварышы?

* * *

**Рэлігія і палітыка**

*Oto dowiaduję się nagle, że 98 proc. społeczeństwa, bo na tyle określa się liczbę katolików, to ludzie prześladowani, spychani na margines. Ale to dopiero początek kampanii wyborczej,* — піша Марэк Круль.

*Wprost, nr 23*

* * *

**Напрамак — усход**

*Zdecydowana większość obywateli Białorusi biorących udział w referendum 14 maja wyrzekła się historycznych symboli narodowych, wypowiedziała się za integracją z Rosją i praktycznie pogrzebała język swoich przodków. Nikt nikogo do tego nie zmuszał. Czyżby kilka propagandowych audycji w iście goebbelsowskim stylu wystarczyło, aby przekonać rzesze narodu. Ta cicha tragedia dotyczy również Polaków Białorusi. Nie żyjemy w Rosji, jesteśmy taką samą mniejszością narodową jak Rosjanie, ale odtąd ich język bedzie naszym językiem państwowym. Wśród nas znaleźli się także „hospoda-towarzysze", którzy o wszystkim zapomnieli. Już teraz do Moskwy łatwiej jest pojechać niż do Oszmiany, przepustki nie trzeba.*

*Głos znad Niemna, nr 18,*
*organ Związku Polaków na Białorusi*

* * *

**На снеданне — самагонка і сала**

*I mnie Polakowi ścisnęło się serce. Znam dobrze ten lud białoruski: płowowłosy i błękitnooki, cichy i z chłopska nieufny, nie tak dawno odziany w kożuchy i piękne samodziały z wełny i lnu, pijący żytnią samogonkę pod soloną słoninę grubości męskiej dłoni i zawsze oczekujący biedy i nauczony żyć aby przeżyć,* — піша *Zbigniew Żakowicz.*

*Gwiazda Morza.*
*Gdański dwutygodnik katolicki, nr 11*

Які рэзерват парабкаў на той жа Беларусі. Сэрца разрываецца, што немагчыма яго скарыстаць. Жуе гэты бязмозгі асобень саланіну, п'е самагонку і хоча толькі пераждыць. Нічога больш. А працаваць можа безупынна з невялікім перапынкам на сон. Ціхі і пакорны. Проста, ідэал!

* * *

**За талерантнасць у межах Расіі**

*Białorusini, naród tolerancyjny i cierpliwy, w większości odczuwający duchową i kulturową więź z Rosją, opowiedzieli się też za uznaniem rosyjskiego jako drugiego języka państwowego.*

*Przegląd Prawosławny, nr 6*

Можна спадзявацца, што беларуская талерантнасць стане цяпер таксама прыкметай расейцаў. Неўзабаве праўдападобна адбудзецца рэферэндум у Федэрацыі наконт надання беларускай мове статусу другой дзяржаўнай мовы Расіі. У станоўчых адказах грамадзян Расіі мы не сумняваемся.

# З мінулага тыдня

12 чэрвеня **Расейская Федэрацыя** адзначала **Дзень незалежнасці**. З гэтай нагоды ў беларускім тэлебачанні выступіў не пасол РФ, а сам прэзідэнт **Аляксандр Лукашэнка**, які абвінаваціў расейскі ўрад у замаруджванні працэсу аб'яднання Беларусі з Расеяй.

**У Медным** каля Цверы адбылася ўрачыстасць пасвячэння краевугольнага каменя пад польскі могільнік. У гэтай мясцовасці пакояцца астанкі 6295 польскіх паліцыянтаў, жандараў і пагранічнікаў — вязняў лагера ў Асташкове, расстраляных вясною 1940 года ў казематах НКУС у Цверы. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел, між іншым, **Анджэй Мільчаноўскі** — міністр унутраных спраў і архіепіскап **Сава** — праваслаўны ардынарый Войска Польскага.

**У Гродне** адкрылася **Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча**. Ва інаўгурацыі дзейнасці гэтай дыпламатычнай установы прынялі ўдзел міністр замежных спраў Польшчы — **Уладыслаў Барташэўскі** і віцэ-міністр замежных спраў Беларусі **Валерый Цанкала**. Адкрыццю спадарожнічаў кірмаш вырабаў беластоцкіх прадпрыемстваў.

**У Пярэмышлі** дзесяць „патрыятычных, грамадскіх і ветэранскіх" арганізацый заявілі, што не дапусцяць, каб у гэтым горадзе адбыўся ў пачатку ліпеня г.г. Фестываль украінскай культуры. Праціўнікі фестывалю накіравалі пратэстацыйны ліст міністру культуры і мастацтва, а ў горадзе расклеілі плакаты з надпісамі: „Далой гайдамацкі фестываль!" і „Не хочам фестывалю на знявечанай УПА Пярэмышльскай зямлі!" Раней гэтыя арганізацыі выступалі за дэлегалізацыю Саюза ўкраінцаў у Польшчы.

**Ксёндз Генрык Янкоўскі** — пробашч парафіі св. Брыгіды ў Гданьску ў казанні ў прысутнасці прэзідэнта РП **Леха Валэнсы** запатрабаваў, каб члены ўрада даказалі, што іх радаслоўная не выводзіцца з Ізраіля і што Давідава зорка ўпісана ў сімвалы свастыкі і сярпа з молатам. Супраць такім выказванням запратэставала **Каардынацыйная камісія яўрэйскіх таварыстваў і арганізацый**, якая такую паставу палічыла антысеміцкай і выказала здзіўленне, што прэзідэнт не адрэагаваў на такія словы.

**Кірмаш кніжкі**, паліграфіі, выданняў і рэкламы, які арганізавала фірма **Бяль-Экспа**, адбыўся ў Беластоку. Прынялі ў ім удзел выдавецтвы з Польшчы, Расеі і Беларусі. Свае выданні прэзентавалі таксама „Ніва", „Часопіс", Літаб'яднанне „Белавежа" і БГКТ. Падводзячы вынікі кірмашу, дырэктар „Бяль-Экспа" **Мікалай Козак** паведаміў, што між беластоцкім „Домам кніжкі" і фірмамі „Международная книга" з Масквы і „Гроднакніга" з Гродна падпісана пагадненне на пастаўку расейскіх, беларускіх і ўкраінскіх выданняў, якія будуць прадавацца ў кнігарні па вул. Кілінскага ў Беластоку *(пра кірмаш чытайце на стар. 3)*.

**Свята беларускай культуры**, арганізаванае Беларускім грамадска-культурным таварыствам, адбылося ў гарадскім амфітэатры ў Беластоку. На сцэне выступілі найбольш вядомыя фальклорныя і эстрадныя калектывы, а „белавежцы" прадавалі і падпісвалі свае кніжкі.

**Міністр нацыянальнай адукацыі Рышард Чарны** заявіў, што школы, якія да 1 студзеня 1996 г. пяройдуць у распараджэнне гмінных улад, будуць ім перададзены без задоўжанасці. Усе даўгі застануцца на рахунках куратораў і міністэрства.

**Лідэр СЛД Аляксандр Квасьнеўскі**, які будзе балатавацца на прэзідэнцкіх выбарах восенню г.г., пабываў у **Белавежы і Гайнаўцы**. У сталіцы Белавежскай пушчы ён, як старшыня Канстытуцыйнай камісіі парламента, прымаў удзел у навуковай канферэнцыі юрыстаў-канстытуцыяналістаў. У Гайнаўцы кандыдат у прэзідэнты сустрэўся з жыхарамі горада.

# Праз тыдзень у „Ніве"

> Чаму адклікалі пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгія Таразевіча.

> На Святога Духа ў Такарах.

> Гмінныя самаўрады Беласточчыны не хочуць вяртання гістарычных назваў мясцовасцей.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Адыход ад рынку

У Менску адбылося пашыранае пасяджэнне Кабінета Міністраў і Савета Бяспекі, прысвечанае абмеркаванню эканамічных праблем краіны. Аляксандр Лукашэнка растлумачыў, што мэтай нарады з'яўляецца неабходнасць вызначыцца, як зрабіць найбольш эфектыўнай работу ўсіх структур і даведацца, чаго не хапае кіраўнікам і выканаўцам для нармальнай дзейнасці. Прэзідэнт падкрэсліў, што функцыянаванне прамысловасці ставіць кіраўніцтва рэспублікі перад неабходнасцю прыняцця самых жорсткіх мер, а гэта на практыцы абазначае, што ўлады будуць дабівацца эканамічных вынікаў пагрозай, планам і дырэктывай. Інакш гэтую справу бачыць старшыня Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч, які заявіў, што „ў сённяшніх бедаў адзін корань: зашмат у Беларусі яшчэ сацыялізму".

## Карупцыя ў войску

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка правёў нараду, на якой былі разгледжаны пытанні проціпраўнай дзейнасці некаторых гаспадарчых суб'ектаў і службовых асоб у Міністэрстве абароны. На нарадзе абмяркоўваліся факты парушэння парадку размеркавання жылля з міністэрскіх фондаў, невыкананне заканадаўства ў канверсійнай і камерцыйнай сферах дзейнасці ваеннага ведамства. Разглядаліся таксама канкрэтныя пытанні злоўжывання службовым становішчам з боку пэўнай часткі генералаў і афіцэраў. У сувязі з такімі абставінамі генерал-палкоўнік Анатоль Кастэнка падаў рапарт аб адстаўцы з пасады міністра абароны. Выконванне яго абавязаў прэзідэнт даручыў генералу-лейтэнанту Леаніду Мальцаву — начальніку Галоўнага штаба Узброеных Сіл.

## Ваеннае супрацоўніцтва

Ва Узброеных Сілах пабывала афіцыйная дэлегацыя Войска Польскага. Падчас сустрэчы прайшоў абмен вопытам па праблемах арганізацыі выхаваўчай работы ў абедзвюх арміях, аб эфектыўнасці структур, якія яе арганізуюць. Больш глыбока былі абмеркаваны пытанні арганізацыі дзяржаўна-прававой падрыхтоўкі ў арміі Беларусі.

## У абарону „ЛіМа"

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі выступіў са зваротам да прэм'ер-міністра Міхаліла Чыгіра. У ім выказана заклапочанасць катастрафічным становішчам, у якім апынуўся беларускамоўны друк і беларуская кніга. Апошнім часам з'явілася пагроза закрыцця выдавецтва „Мастацкая літаратура", з-за даўгоў прыпыніла сваю дзейнасць выдавецтва „Полымя", ужо трэці тыдзень Беларускі дом друку не друкуе шэраг беларускамоўных выданняў, у тым ліку „ЛіМ", „Настаўніцкую газету", „Культуру", „Голас Радзімы", „Наша слова", „Маладосць", „Беларусь", „Мастацтва" і іншыя. Аўтары звароту просяць прэм'ер-міністра разгледзець гэтае пытанне і аказаць фінансавую дапамогу згаданым выдавецтвам. „Асабліва непакоіць наш лёс старэйшай і адзінай літаратурнай газеты „ЛіМ", два нумары якой падрыхтаваныя, але не надрукаваныя. Трэці нумар таксама знаходзіцца пад пагрозай", — пішацца ў заяве.

## Пашпарты на размол

У сувязі са змяненнем дзяржаўнай сімволікі на спецпрадпрыемстве Беларускі дом друку прыпынены выпуск нацыянальных беларускіх пашпартоў. Некалькі мільёнаў асобнікаў зараз знаходзіцца на складах прадпрыемства. На працягу гэтага года Міністэрства ўнутраных спраў не выкупіла ніводнага экземпляра, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў. Каманды знішчыць незапатрабаваныя пашпарты пакуль яшчэ не было. Чарговая змена пашпартоў абыдзецца рэспубліцы ў дзесяткі мільёнаў долараў.

## Неразумны падыход

Беларусь дае крэдыты Захаду — прыкладна так можна інтэрпрэтаваць паведамленне, зробленае выконваючым абавязкі генеральнага пракурора Васілём Капітанам. Гаворка ў прыватнасці ішла пра неразумны падыход да стварэння ў рэспубліцы т.зв. залатога запасу. Замест таго, каб з адходаў, што ўтрымліваюць каштоўныя металы (золата, плаціну), наладзіць адпаведную вытворчасць на месцы, сёння яны адпраўляюцца для перапрацоўкі ў ЗША, Германію і іншыя краіны. Рэспубліканская пракуратура мае факты, калі пры рэальным утрыманні ў адзінцы масы адходаў 60—70% золата, пасля перапрацоўкі рэспубліка атрымлівае ўсяго 2%.

## Крымінальны паток

Міністр унутраных спраў Юрый Захаранка мае намер звярнуцца да прэзідэнта і ўрада па дазвол разгарнуць на мяжы з Расейскай Федэрацыяй аддзелы дарожнай міліцыі. Выклікана гэта тым, што ў выніку зняцця мытных бар'ераў паміж дзвюма дзяржавамі Беларусь аказваецца практычна безабароннай ад крымінальнага патоку, які ідзе з усходу на захад.

# СВІНУШНІК У N

**На забаве ў Кленіках, на Ушэсце, дзяўчаты з N падпіралі сцены. Калі і каторы хлопец хацеў падысці да іх, тут жа спынялі яго сябры: „Бяры, бяры, то набярэшся". Хаця з Кленік да N больш за сорак кіламетраў, чутка пра паяўленне там *брыдкай* хваробы данеслася і сюды.**

* * *

N — гэта гмінная мясцовасць, распаложаная недалёка дзяржаўнай мяжы. Людзі тут, традыцыйна, займаюцца земляробствам і працуюць на чыгунцы. Ёсць яшчэ вайсковы гарнізон.

— *Нуда, нічога тут не дзеецца*, — кажуць кавалеры ля дома культуры. — *Найцікавейшай падзеяй апошнім часам было адкрыццё новай піўнушкі.*

На выразныя намёкі, хлопцы пераміргнуліся між сабой. Адзін з іх адмахнуўся рукою: *а, kiłka*. Зразумела, пра хваробу чулі, чаму ж не, але хто і ад каго набраўся, не ведаюць. Хлопцы ўвесь час таямніча ўсміхаюцца.

— *Я то апошніх навін не ведаю*, — кажа найменшы ростам, — *бо служу ў войску аж у Ажышы. Хочаце, раскажу вам, як у цягніку падчапіў я дзве іегавісткі. З адной нават дамовіўся.*

— *А што ты з ёю, пра біблію развакаць будзеш?* — зарагаталі калегі.

— *Хай толькі прыйдзе, то біблія на бок... і ўшыстко.*

ВЕНЕРЫЧНЫЯ ХВАРОБЫ

— інфекцыйныя хваробы, якія найчасцей перадаюцца палавым спосабам. Да іх належаць *сіфіліс, ганарэя, шанкер мяккі, пахвінны лімфагрануламатоз, трыхаманоз*. Бываюць выпадкі кантактава-бытавога заражэння, асабліва сіфілісам. Сіфіліс і ганарэя без належнага лячэння набываюць хранічную форму, паніжаюць працаздольнасць, вядуць да інваліднасці. Пашыранасць венерычных хвароб у капіталістычных і каланіяльных краінах абумоўлена сацыяльна-эканамічнымі прычынамі: платнай медыцынскай дапамогай, прастытуцыяй.

(БелСЭ, т. 3, с. 24).

* * *

У цэнтры N, між вуліцамі 1-га Мая і Дзюбуа, невялікі рыначак, па-мясцоваму „Рубэль-пляц". Гандлююць тут прысезджыя з Усходу. На драўляных прылаўках у промнях чэрвеньскага сонца блішчаць літровыя бутэлькі польскага спірту і нямецкай гарэлкі „Распуцін". Спірт па 170 тысяч, а гарэлка — па 140.

— *Што можа прадаваць дзяўчына, размаляваная, перафарбаваная на яркую бландзінку, з адной сумачкай?* — пытаецца працаўнік гміны, які збірае рыначную аплату. — *Часамі для прыліку мае адну бутэльку.*

Гандаль на рыначку не спыняецца ўвечары. Наадварот, робіцца тады яшчэ больш гаманлівы. Да гандлёвай кампаніі далучаюцца кончыўшыя працу чыгуначнікі. Раскручваюцца купленыя на месцы напоі, мацнее размова, усчынаюцца хіхі і піскі, шырока льюцца „рускія" напевы. У вясёлую грамаду заязджае машына тыпа фургона, у якой можна знайсці інтымны куточак. Другім такім месцам з'яўляецца пустуючы цяпер свінушнік, што побач базару. Тыя, у каго ёсць магчымасць, могуць завесці *дзеўушку* ў хату.

У N дзяўчаты таннейшыя за алкаголь. Самыя прывабныя ходзяць па 100 тысяч. Старэйшыя — за палову гэтай сумы, а найменш удалыя і звычайна нецвярозыя — як дарма, за адзін долар.

Жыхары N ставяцца да гэтай практыкі абыякава. Здаўна вядома, што і некалькі мясцовых дзяўчат даюць паслугі жаўнерам.

— *Te same dziewczyny przechodzą z poboru na pobór*, — спакойна заяўляе адзін з афіцэраў.

Вайскоўцам, каб пагуляць з паненкамі, не трэба цягнуцца на „Рубэль-пляц". Побач гарнізона ўрочышча Каганка, бязлюддзе, шмат кустоў...

* * *

— *Ці праўда, што палова N хворая сіфілісам?* — пытаем у напатканага дзядзькі.

— *Ну што вы, а хто ж тады б сена пратаў*, — смяецца ён у адказ, — *пяць, шэсць чалавек гэта напэўна, але не палова. Зрэшты, нічога дзіўнага, што такое здарылася. Ёсць у нас адна Кацярына, якая апусцілася да немагчымага. Заходжу я ў краму, сядзіць яна на скрыньцы з-пад піва, у залоенай фуфайцы, у якой пэўна і спала, а побач такі самы зашмальцаваны — у адной руцэ піва, а другою трымае яе за тую. І яна да мяне азываецца: „То як вы жывяце, дзядзьку?" А мне, як хто ў морду даў. На такое сорамна глядзець, а тут яшчэ пазнаюць цябе! Бачыце, яна калісьці парадачная была і працавала разам са мною. Цяпер цягае яе, хто толькі хоча, летась нават зусім гаўнякі. Ці ж не разнясецца? Шкада дачкі майго знаёмага, таксама набралася.*

— *То вы кажаце, што сіфіліс?* — здзіўляецца старэйшая цётка. — *Я чула, што „айдса" з Бельгіі ці Галандыі прывалаклі. Але ж хіба з тым „айдсам" у шпіталі не трымалі б, а як вы думаеце?*

* * *

У дэрматалагічным шпіталі ў Беластоку шэсць хворых сіфілісам жыхароў N. Гэта тыя, у якіх хвароба ўжо праявілася. Колькі ўсіх заражаных — невядома. Лекары, на падставе размоў з пацыентамі, складаюць спіскі патэнцыяльных носьбітаў хваробы.

Сярод ахвяр знаходзіцца 15-гадовы юнак і 18-гадовая дзяўчына.

— *Czy wiesz, co to kiła?*, — спыталіся яе лекары.

**СІФІЛІС** — венерычная хвароба, узбуджальнік якой бледная спірахета. (...) Адрозніваюць тры перыяды хваробы. Інкубацыйны (скрыты) перыяд 3—4 тыдні ад моманту заражэння. Першы перыяд (6—8 тыдняў): на месцы пранікнення спірахеты развіваецца першасная язва (цвёрды шанкер), павялічваюцца лімфатычныя вузлы (рэгіянарны лімфадэніт). Другі перыяд (2—3 гады): перыядычна з'яўляецца разнастайная высыпка, бывае плешывасць, лейкадэрма (дэпігментаваныя плямы на скуры грудзей, спіны). Трэці (гумозны) перыяд: утвараюцца гумы (спецыфічныя бугаркі і вузлы) у скуры, касцях, мышцах, унутраных органах, цэнтральнай нервовай сістэме. У недастаткова лечаных хворых праз 5—15 гадоў бываюць дыстрафічныя пашкоджанні нервовай сістэмы (сухотка спіннога мозгу, прагрэсіўны параліч).

(БелСЭ, т. 9, с. 539)

— *Nie.*
— *A rzeżączka?*
— *Nie.*
— *A słyszałaś o syfie?*
— *Tak.*
— *No to masz syfa.*

* * *

Ля спажывецкай крамы жлукцяць піўцо маладзёны.

— *Маці аднаго нашага калегі — медсястра*, — расказваюць. — *Прыйшла аднаго разу дадому і кажа яму: „Ты зважай, бо паявілася ў нас пошасць". Абавязвае яе прафесійная тайна, дык не сказала, хто хворы. Адно дала сыну пачытаць адпаведныя брашуры.*

Пагрозу адчулі N-скія ўстановы і ліхаманкава заняліся сексуальнай адукацыяй. Усюды паявілася інфармацыйная літаратура пра венерычныя хваробы.

Віноўнік усяе афёры, пакуль што, не ўстаноўлены.

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**

# Ажыўчая чыстая крыніца

Як прадбачваецца, у 1996 годзе ўсе вёскі ў Арлянскай гміне будуць мець ваду з крана і гэтым самым будзе вырашана адна з найважнейшых праблем гэтай гміны.

У Арлянскай гміне ёсць 25 вёсак. Першыя водаправоды пачалі тут будаваць у 1990 годзе. Зараз працуе 40-кіламетровая водаправодная лінія. У мінулым годзе на пабудову водаправодаў прызначылі з гміннага бюджэту каля паўтара мільярда старых злотаў.

Сёлета гмінныя ўлады адвялі падобную суму грошай на пракладку 9 кіламетраў водаправодаў. Вада чыстая як крышталь паплыве ў вёсках: Маскоўцы, Вулька-Выганоўская, Вулька-Малая і Паўлінава. У будучым годзе ваду з крана будуць мець жыхары Рудутаў, Вулькі і Рыгораўцаў (вакзала). Пракладзеных будзе 8 км водаправода.

У Гайнаўскай гміне першыя водаправоды праклалі ў вёсках Махнатае і Старое Беразова ўжо ў 1986 годзе. У 1992 годзе пабудавалі іх у Новым Беразове, Чыжыках, Трывежы і ў Новым Корніне, у 1993 годзе — у Дубічах-Асочных, Хітрай, Пуцісках, Катоўцы і ў Барку ды ў 1994 годзе — у Дубінах, Ліпінах і ў Навасадах.

Сёлета запланавалі пабудову водаправодаў у Рэпісках, Барысаўцы, Сарочай Ножцы, Савіным Грудзе, Прагалях і ў Выгодзе. І так жыхары гэтых вёсак таксама дачакаюцца гэтай выгоды ў доме і ў аборы.

**(яц)**



*Беспрацоўны экс-земляроб ноймецца на працу ў гістарычным кінафільме.*

**Фота Міры Лукшы**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Таццяна Мароз хацела б пазнаёміцца і перапісвацца з беларусамі, якія жывуць на Беласточчыне.

Зацікаўленых просім пісаць па адрасу:

Рэспубліка Беларусь
Гомельская вобласць
247760 г. Мазыр
Галоўная Пошта
п/с 80
Таццяна Мароз

# На кніжках не заробіш

7 чэрвеня г.г. у Беластоку быў адкрыты Міжнародны кірмаш кніжак, выданняў, паліграфіі і рэкламы. Арганізатар мерапрыемства — фірма „Бяль-Экспа" з Беластока — запланавала пры нагодзе цыкл сустрэч з пісьменнікамі і аўтарамі цікавых навуковых распрацовак. Яшчэ не так даўно гандаль кніжкамі быў вельмі рэнтабельны. Зацікаўленасць гэтым таварам з боку пакупнікоў была аграмадная. Кніжкі куплялі нават тыя, якія іх не чыталі. Сёння ўсё адмянілася. Нават цікавыя выданні ў прыгожых вокладках доўга залежваюцца ў кнігарнях. Праўда, шмат асоб гартаюць старонкі, прыглядаюцца пажадлівым позіркам гэтым крыніцам ведаў, але не купляюць. Кніжкі сталі надта дарагія для тых, якія па розных прычынах хацелі б стаць іх уласнікамі. А багатых, на якіх цана не робіць уражання, ёсць надта мала, а на дадатак не кожны з іх мае такую патрэбу, каб займацца нейкай літаратурай.

З-за гэтага, відаць, арганізаваны „Бяль-Экспа" кірмаш не выклікаў масавага зацікаўлення беластачан. Дырэктар фірмы і адначасова галоўны арганізатар кірмашу запрасіў у Беласток выдавецтвы з Польшчы, Расіі, Беларусі, Літвы і Украіны. Літоўцы і украінцы не з'явіліся ўвогуле.

Расійская фірма „Международная книга" прапанавала кліентам шмат цікавых распрацовак, між іншым, пра Уласава, Жукава, Берыю, Сталіна, Брэжнева, але іх цана была ў тры—чатыры разы большая, чым падобных польскіх выданняў. 300—400 тыс. зл. за звычайную сучасную кніжку, гэта зашмат нават для найбольш заядлых аматараў расейскай літаратуры.

Беларуская фірма „Гроднакніга", хаця прапанавала свае літаратурныя творы па 20—30 тыс. за экземпляр, бізнесу таксама не зрабіла хаця б з тае прычыны, што беларускія прадпрымальнікі з Гародні прывезлі на выстаўку толькі па адным паасобніку. У большасці былі там загалоўкі ўжо добра вядомыя чытачам у Беларусі.

Шмат месца на прэзентацыю свае творчасці атрымалі таксама беларускія выдавецтвы з Беласточчыны. Выданні Беларускага гістарычнага таварыства, Літаратурнага аб'яднання „Белавежа", Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва", „Часопіса" і календары БГКТ былі адлюстраваннем інтэлектуальнай творчасці беластоцкіх беларусаў.

Найбольш шматліка паказалі сябе на кірмашу польскія выдавецтвы з Беластока. Мясцовая навуковая і мастацкая літаратура — як вядома — не прадстаўляе найвышэйшага ўзроўню. Таму і каля прылаўкаў гэтых выдавецтваў не было вялікага натоўпу.

Агульная выснова з гэтага кірмашу такая, што з прадукцыі і з продажу кніжак у сучасны момант цяжка мець нейкі прыбытак.

**М. Я.**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

### У школе

Васьмігадовым хлапчуком паступіў я ў пачатковую школу ў вёсцы Адцэда. Чацвёртакласнікам удзельнічаў у чэрвені 1937 года ў школьнай экскурсіі ў Вільню. Гэта была мая першая паездка пасажырскім цягніком. Ад экскурсіі засталіся незабыўныя ўражанні. Тады я ўпершыню пабачыў вайсковы самалёт, а нават сядзеў крыху за яго рулём. Наведалі мы таксама Вострую Браму і маліліся перад іконай Прасвятой Багародзіцы (захоўваю яшчэ здымак з гэтага ўрачыстага моманту). За пяць дзён знаходжання ў Вільні пабачылі мы магільнік на Росах, былі ў тэатры і кіно, плавалі параходам „Сабескі" па Віліі, пабывалі ў віленскай кафедры і на Замкавай гары.

Пасля заканчэння чацвёртага класа працягваў я вучыцца ў паўшэхнай (усеагульнай) школе ў Слабадзе, дзе былі V—VII класы. У абедзвюх школах вучнямі ў пераважнай большасці былі беларускія дзеці, аднак усе заняткі вяліся толькі на польскай мове.

У 1935 г. улады правялі г.зв. рэформу навучання ў вясковых школах, якая зводзілася да таго, што бедным сялянскім дзецям, якія не маглі працягваць навуку ў класах V—VII, трэба было „сядзець" два гады ў трэцім класе і тры гады ў чацвёртым, каб школу закончыць у чатырнаццацігадовым узросце. У рамках такой рэформы былі ліквідаваны сёмыя класы ў вясковых школах, а заставаліся яны толькі ў гарадскіх. У школьным годзе 1935/36 у Слабадзе таксама не было сёмага класа. Пасля намаганняў бацькоў і з увагі на тое, што Слабада была прыгарадам Стоўбцаў, сёмы клас вярнулі.

Пасля 1935 г. быў уведзены абавязак выкладаць праваслаўную рэлігію на польскай мове, а вучняў яўрэйскай нацыянальнасці саджалі аддзельна ад хрысціян — з левага боку залы. Некалькі дзён яўрэі ў знак пратэсту не садзіліся ў свае парты, а толькі прыслухоўваліся ўрокам стоячы. У наступным навучальным годзе пайшлі яны вучыцца ў прыватныя яўрэйскія школы.

Бацькі вучылі мяне і маіх братоў пісаць і чытаць па-беларуску. У нашай хаце выпісваліся беларускія часопісы, былі розныя беларускія віленскія выданні, у тым ліку і школьныя падручнікі. Да сённяшняга дня захоўваю „Геаграфію Беларусі" Аркадзя Смоліча, выдадзеную ў 1923 г. Абавязкам маім і майго брата Язэпа было чытаць уголас беларускія газеты і кніжкі ды паказваць месца падзеяў на вялікай карце, што вісела ў вялікім пакоі. Збіраліся ў ім не толькі нашы сямейнікі, але сваякі і суседзі. А тварылася тады на свеце многа цікавага і адначасна трывожнага. Вайна бушавала ў Кітаі, Эфіопіі, Іспаніі. Праз аптымістычную савецкую прапаганду прасочваліся жудасныя чуткі з Саюза. Маім слухачам асабліва падабаліся вершаваныя палітычныя каментары Лявона Ветрагона, якія друкаваліся ў газетах. Пра рэпрэсіі ў Савецкім Саюзе пісаў ён так:

*У Маскве, у снегу, ў слоце*
*Робяць чыстку у балоце.*
*Пасярод партыйных крыкаў*
*Адзін сам сабе за-Рыкаў.*
*Другі з Троцкім іншых парыў,*
*Цяпер сам сябе з-Бухарыў.*
*А Красцінскі з толку збіўся,*
*Салгаў, потым адхрысціўся.*
*Ягоду зімою, нібы ў леце*
*Сарваў Ягаду у цвеце.*
*Шарангöвіч свае беды*
*Зваліў ў гурт на Галадзеда.*
*Заліў так жа іншым лою:*
*Чарвякову, Нікалою.*
*Усе прызналісь, у грудзі білі*
*Самым глупствам завяршылі —*
*расстраляннем.*

На такіх сходах не абыходзілася без палітычных развазанняў і без слухання перадач з Менска. Не абышлося і без правакацыі. Нехта, відаць, паведаміў каго трэба, бо паліцыя наведала наш дом і загадала бацьку не дазваляць гуртам слухаць камуністычную прапаганду. А ў 1938 г. бацьку вызвалілі з пасады лесніка.

У VI класе я стаў хвастацца перад калегамі, што ўмею чытаць і пісаць па-беларуску, прыносіў з сабою ў школу беларускія кніжкі і часопісы, паказваў іх і чытаў аднакласнікам. Праз нейкі час загадчык школы і класны апекун праверылі маю сумку і рэквізавалі беларускую літаратуру. Пасля паклікалі ў школу бацьку, правялі з ім размову і прыгразілі, што калі буду ў далейшым прапагандаваць беларушчыну, мяне выкінуць са школы. Рэквізаваныя часопісы і кніжкі, аднак, вярнулі. А на ўроках настаўнікі сталі даказваць, што няма ніякай беларускай мовы, а толькі ўсходняя, крэсовая польская гаворка, такая ж як кашубскі, шлёнскі ці гуральскі дыялекты. Аднак гэта не перашкодзіла мне і маім калегам чытаць беларускія часопісы па-за школай.

У чэрвені 1939 года закончыў я шосты клас і быў пераведзены ў сёмы клас усеагульнай школы ў Слабадзе.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992-07-08.**

У Крынках канец беларускаму размоўю ўжо магчыма прадбачыць: максімум дзесяць гадоў. Пакуль не вымруць мае равеснікі. Пакаленне нашых дзяцей — заядла польскае. (...)

Псіхалагічная асаблівасць: у Беластоку гаворыцца мне па-польску без асаблівага заікваньня, а ў Крынках проста баюся адкрыць рот, адчуваючы ціск у горле; польская мова для мяне там, ну, як прафанацыя...

Страшна — ваўкавыйна — робіцца на душы, калі зноў і зноў усведамляю сабе, што адбываецца нешта накшталт уваскрашэння беларускай нацыі з мёртвых ужо, салідна пахаваных! Не распадзіся СССР — не было б аніякага адраджэння, а я сышоў бы з гэтага свету дзіваком, які без сэнсу патрацію жыццё! (...)

**1992-07-11.**

(...) У адным з ліцэяў Беластока (ul. Zwycięstwa) наіўняткі з БГКТ дамагаліся ад кураторыі пачаць фармальны набор вучняў у асобны клас з беларускай мовай як прадмет. Няцяжка было прадбачыць, што ўсё закончыцца кампраметацыяй, але і сам я не чакаў, каб аж настолькі абсалютнай: не паступіла аніводная заява! У беластоцкіх беларускіх сем'ях не гавораць па-беларуску, дык і нашто ім беларуская мова.

**1992-07-15.**

У поначную гутарку з Алегам. — Пакуль Рэспублікай Беларусь кіруюць посткамуністы, наш тут рух будзе маргіналізаваным (БДА і інш.). На першым плане ўсё застаецца БГКТ, што адпавядае і цяперашнім польскім уладам, якім лягчэй паразумецца ў практычных справах з камунякамі менавіта, бо ім напляваць на інтарэсы Беларусі... Калі б Варшаве трэба было дамаўляцца з Пазьняком — гэта адбывалася б без комплексаў пана і халопа, але, як роўны з роўным. — Няма сэнсу працягваць нам кантакты з Краўчанкамі і Бутэвічамі. Яны ні ў чым рэальна не дапамогуць; толькі падбухторваюць нас на канфліктаванне з палякамі, што не можа не закончыцца нацыянальнай бядою. Ім жа патрэбны — найбольш Маскве — свайго роду Карабах на Беласточчыне, нейкі козыр у міжнароднай гульні, а не клапотнасць пра наша выжыванне як нацыі. (...)

Сёння канчаткова вырашана пераўтварыць Раду Беларускіх Арганізацыяў у Беларускі Саюз у Польскай Рэчыпаспалітай (я настаяў на такой, простай і змястоўнай, назве). Статутная формула будзе шырэйшая, у Саюз змогуць уступіць не толькі stricte нацыянальныя нашы ўтварэнні.

Відаць пры нагодзе, хто і чаго шукае ў беларускім руху. Роля ідэалістаў толькі ў тым, каб ён увогуле быў, а ягоная масавасць залежыць, усё-такі, ад кан'юнктуры, а г.зн. ад банальнай карысліваспі. Жулі не робяць рэвалюцыю, яны ёю карыстаюцца. (...)

**1992-07-18.**

Недзе пад Гарадком, у Борыку, шуміць *Басовішча* (якому, крыху па-беларуску, не шанцуе штогод: як толькі пачнецца яно, адразу бярэцца падаць дождж; сёлета, дык хоць на ратунак у такую сушу!). Пры́няўся я пачытаць святочны выпуск *Gazety Wyborczej*, самай вялікай у Польшчы, з мільённым тыражом. Заснуў у фатэлі — ці то ад доўгае стомы, ці ад цікае роспачы над: *Katolicyzm współczesnej Białorusi*... Гэты quasi-аб'ектыўны тэкст С. Мацю-ніна і В. Міцкевіча пахне мне халоп- ствам, паклонамі беларускага хама перад польскім панам. Можа не было б аж такіх асацыяцыяў у мяне, калі б не ведаў, што заселі яны ў Люблінскім Каталіцкім Універсітэце і вельмі ж добра ім там жывецца. Стаўка ў палякаў няновая: зрабіць Беларусь паўпольскай як мінімум, калі ўжо не калоніяй, выхапленай Маскве (пра гэта адкрыта гаворыць Гедрайць з парыжскай *Kultury*).

Пры нагодзе Мацюнін з Міцкевічам *мыюць* Беларускі Народны Фронт як сілу алергічна проціпольскую, чым не аблягчаюць яму міжнароднае становішча.

**1992-08-01.**

(...) Больш тыдня забаўляў *дзяцей Чарнобыля* ў Крынках, адкуль вярнуўся паўжывым. Таня ўзяла ў нашу хату дзве дзяўчынкі, дванаццацігадовыя, Галю Янкоўскую (...) і Ялену Андрэенка. (...) Мінчукі, гадаваныя рабацягамі на маскальскі. Смешна па-дзіцячаму нездаволеныя беларусізацыяй іхнай школы... Неяк запрасіў я да сябе цэлую групу гэтых менскіх *савецянятаў*, нешта каля дваццаці, каб пагаварыць з імі, пачытаць гумарыстычныя рэчы (сяк-так выслухалі толькі *Удачу*). Гоман быў несусветны, не аціхшыла іх нават настаўніца *Анна Макараўна*, што прыехала ў Крынкі разам з імі; вытрываў я каля гадзіны часу. Такой жах-сустрэчы яшчэ не меў! (...)

*(працяг будзе)*

# Выбары без выбараў

*Працяг са стар. 1*

— Свабодныя прафсаюзы былі супраць рэферэндуму. Пакуль што такіх планаў не маем. Нашыя дзеячы не могуць займацца палітыкай, бо гэта пагражае дэлегалізацыяй прафсаюзнай дзейнасці. Магчыма, што з'езд нашых прафсаюзаў, які адбудзецца ў жніўні, нешта адменіць.

*— Не пратэстуеце тады нават супраць існуючым сацыяльным умовам жыцця грамадства?*

— Пратэстуем і да гэтага вельмі актыўна. Калі трэба страйкуем. У адным прадпрыемстве змянілі нават трох дырэктараў, але ўмовы працы і платы не змяніліся ад гэтага. Патрэбныя змены ўсёй эканамічнай і палітычнай сістэмы, а ў гэтай справе мы не можам выказваўца. Не можам, напрыклад, дамагацца змены ўрада, бо перастанем існаваць як прафсаюз.

*— Чаму тады людзі галасуюць на камуністаў і наменклатуршчыкаў?*

— Як галасуюць, пакуль што невядома, бо тое, што адбылося 14 мая, цяжка назваць выбарамі. Але ў нас ужо ніхто і нікому не верыць. Існуе, невядома адкуль, такое пераканане, што ўзровень жыцця панізіўся таму, што пры ўладзе былі дэмакраты. Хоць Беларусь была адзінай краінай ва Усходняй Еўропе, дзе дэмакраты не былі пры ўладзе. У нас у Магілёве, напрыклад, мэрам быў нейкі Габрусёў, пра якога гаварылі, што быў рэфарматарам у радах КПСС. Невядома чаму аднак атасамлівалі яго з дэмакратамі. Ён ніколі не быў у структурах дэмакратычнай арганізацыі. Усе яго парушэнні заканадаўства ці звычайна зладзействы як мэра горада прыпісваліся дэмакратам.

*— Давайце вернемся да выбараў, як яны выглядалі на правінцыі?*

— Як я ўжо сказаў, не было ніякіх выбараў. Усё было запланаванае прэзідэнцкай вертыкаллю, а перш за ўсё вынікі. Адна і тая самая палітычная група выступала як аграрнікі, камуністы і людзі прэзідэнцкай вертыкалі. Нягледзячы на тое, хто з іх прайшоў, прадстаўляюць яны і так пануючы ад дзесяцігоддзяў лагер улады.

Па-другое: інфармацыя падчас выбарчай кампаніі ішла аднабакова. Дэмакратам не толькі што не далі выказацца, але яшчэ брутальна і вульгарна іх кампраметавалі, пускаючы аж два разы славуты ўжо фільм „Нянавісць". Гэты фільм, накіраваны на менталітэт люмпена, праўдападобна рашуча паўплываў на вынікі галасавання. Думаю, што нават 40% выбаршчыкаў галасавала б інакш, калі б не гэтая агітацыя ў гебельсаўскім стылі. Гэта было больш-менш так, як бы чалавеку завязалі вочы, накіравалі яго ў напрамку бездані і сказалі ісці. Вядома, куды дайшоў бы той жа чалавек.

Па-трэцяе: страшэнна фальшавалі вынікі выбараў. Каб выйграць, дэмакрату пэўна трэба было б мець недзе пад 80% выбаршчыкаў за сабою. Кожная камісія мела, напрыклад, па дзве урны — адна стацыянарная, другая выязная. Тая другая заўсёды была перапоўненая, хаця заяў ад выбаршчыкаў галасаваць у доме было няшмат. Членаў камісіі падчас выезду ніхто не кантраляваў. Рабілі з бюлетэнямі што толькі хацелі. Найчасцей былі яны цесна звязаны з мясцовым кандыдатам у дэпутаты ад наменклатуры. Там, дзе была нейкая кантроль, г.зн. у абласных гарадах, там амаль нікога не выбралі. У Магілёве з 8 кандыдатаў выбралі толькі 1 дэпутата. А калі б не фальшавалі вынікаў, не было б і гэтага. Да дзевятай вечара ў гэтым участку прыйшло галасаваць 42% выбаршчыкаў. Праз гадзіну, невядома якім чынам, прыйшло яшчэ 9%. Варта звярнуць увагу, што ў гэтую пару амаль ніхто не прыходзіць. На адным з участкаў, дзе было 30 патрабаванняў галасаваць у доме, унутры выязной урны было 400 бюлетэняў. Падлік вынікаў выглядаў там так, што кожны з членаў камісіі браў сабе частку бюлетэняў і ішоў адзінока рабіць падлікі. Адзін з членаў камісіі адкрыта пачаў нешта крэсліць на выбарчых лістоўках, заяўляючы, што грамадзяне нарабілі шмат памылак і дрэнна галасавалі.

У такіх менавіта ўмовах адбываліся выбары ў Беларусі. Але ці можна іх назваць выбарамі? Гэта былі выбары, але без выбараў.

*— Дзякую за размову.*

Размаўляў
**Яўген Міранoвіч**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXX. Здрада

На жаль, не заўсёды адукаванасць і талент засцерагаюць чалавека ад спакус, хістанняў і нават здрады бацькоўскай веры, матчынай мове, роднай традыцыі і культуры. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба: побач нас з вамі жывуць і пасуцца сотні, а то і тысячы тых, якія коштам крывавага мазаля сваіх бацькоў і ўсяе нашай грамадскасці вывучыліся, занялі высокадаходныя пасады і акрыліся славай вучоных, бізнесменаў, палітыкаў, мастакоў, грамадскіх дзеячаў і адначасна выракліся сваёй веры, мовы і традыцыі, і ўчынілі яны гэта без аніякага прымусу, па сваёй асабістай добрай волі, апаганіўшы на вечныя часы саміх сябе і свой род. Да іхніх пышных званняў мільярдэраў, прафесараў, геніяў прысталі неадчэпныя і неадмоўныя: адступнік, прадажнік, здраднік, хрыстапрадавец — хто на што заслужыў.

Мялецій Сматрыцкі (1572—1630) належаў да інтэлектуальнай праваслаўнай эліты канца XVI пачатку XVII ст. ст. Сын адукаванейшага чалавека свайго часу — пісьменніка і рэктара Астрожскай акадэміі — пасля заканчэння пад бацькоўскім кірункам і ў грэцкага вучонага, будучага патрыярха Кірылы Лукарыса, а падаўся ў Віленскую езуіцкую акадэмію, каб закончыць там філасофскі факультэт. Як надзвычай здольнага, усебакова адукаванага і маральна чыстага чалавека, князь Саламярэцкі ўзяў яго за настаўніка, выхавацеля і апекуна свайму адзінаму сыну і спадкаемцу княжацкай фартуны. З княжычам Мялецій зведаў усю Заходнюю Еўропу, слухаў лекцыі ў Нюрнбергскім і Лейпцыгскім універсітэтах, пазнаёміўся з тадышнімі еўрапейскімі філасофскімі і рэлігійнымі плынямі, асабліва блізка спазнаў лютэранства.

У 1608 г. М. Сматрыцкі вярнуўся ў Вільню і адразу апынуўся ў разгары барацьбы уніятаў і католікаў супраць праваслаўных: у краіне бушаваў уніяцкі мітрапаліт Пацей і ягоныя паплечнікі. Яны займалі праваслаўныя цэрквы, манастыры, школы, прытулкі, здзекаваліся і выганялі праваслаўнае духавенства, манахаў, калекаў і хворых. Уражаны дзікунствам уніятаў Мялецій Сматрыцкі ўступае з імі ў змаганне, спачатку ў адказ на выхваляючую унію кнігу І. Пацея „Гармонія" піша „Антиграфи албо отповедь на скрипт ущипливый" (1608 г.), а затым стварае паэму свайго жыцця — „Фринос то ест лямент единой вселенской апостольской восточной Церкви з объяснением догматов веры через Феофила Ортолога в Вильне 1610".

350 гадоў пазней праф. М. Ларчанка сцвердзіў: *„Фрынас" — гэта твор сапраўднай паэзіі ў празаічнай форме, твор высокай мастацкай культуры, дзе гарачае лірычнае пачуццё аўтара, таленавітага паэта, арганічна спалучаецца з грамадзянскім пафасам змагара, мужнага палеміста, які сродкамі мастацкага слова перакаанаўча малюе праўдзівыя карціны прыгнечанага становішча праваслаўнай Царквы і праваслаўнага насельніцтва нашага краю пад уладай польскіх магнатаў і уніяцка-каталіцкага духавенства.*

У „Фрынасе" М. Сматрыцкі праваслаўную Царкву прадставіў у вобразе гаротнай маці. Яна плача над сваім трагічным лёсам: „Гора мне, беднай, гора, нешчаслівай! Ах з усяе маёмасці абрабаванай! Гора мне, абдзёртай на паўсюдную ганьбу з рызаў маіх! Бяда абцяжаранай невымоўнымі цяжкасцямі! Рукі мае ў аковах, ярмо на шыі, путы на нагах, ланцуг перапаясвае мяне, меч з двух бакоў востры над галавою, вада пад нагамі глыбокая, нязгасны агонь па баках, адусюль стогны і енкі, адусюль страх, адусюль праследаванні".

Пакінуўшых родную, спрадвечную веру праваслаўную Маці-Царква праклінае: „Аднак жа вы, злачынцы, абдзёрлі мяне з такой пышнай рызы маёй і над бедным целам маім, з якога самі нарадзіліся, здзекуецеся смехам і кпінамі! Але пракляты той, хто на ганьбу сваёй маці адкрывае яе голае цела; праклятыя і вы, хто з майго голага цела насміхаецца і цешыцца! Прыйдзе той час, калі вам самім будзе сорамна за ўсё гэта!"

Як вядома з папярэдне сказанага, за „Фрынас" П. Скарга абвінавціў Сматрыцкага ў дзяржаўнай здрадзе ў карысць Масквы, а кароль Зыгмунт III Ваза загадаў усе экземпляры кнігі канфіскаваць і спаліць, а таго, хто трымае яе, абкласці аграмадным штрафам, аўтара і друкароў укінуць у турму. Затое праваслаўныя ўслаўлялі Сматрыцкага, перапісвалі кнігу, ахоўвалі яе і спецыяльна ў тэстаментах перадавалі маладым або прасілі ўкласці яе ім у труну.

Сматрыцкі блізка супрацоўнічаў з Л. Карповічам і, таксама як і ён, пастрыгся ў манахі (1618), нёс паслушэнства ў Свята-Духавым віленскім манастыры, вучыў у брацкай школе. Напісаў вучням падручнік „Грамматики славенские правилная синтагма" (1619), якая шматразова перавыдавалася, ёю карысталася ўся праваслаўная грамадскасць Еўропы да пачатку XIX ст. Падчас адраджання патрыярхам іерусалімскім Феафанам у 1620 г. у Кіеве праваслаўнай іерархіі для Рэчы Паспалітай М. Сматрыцкі па просьбе праваслаўных быў хіратанісаваны ў архіепіскапа полацкага.

У 1623 г. давядзеныя да крайнасці праследваннямі жыхары Віцебска забілі уніяцкага архібіскупа Іасафата Кунцэвіча. Уніяты беспадстаўна абвінавацілі архіепіскапа Мялеція ў падбухторванні да гэтага забойства і ён вымушаны быў скрыцца за мяжу. Падаўся ў Канстанцінопаль, а затым у Іерусалім. У гэтым часе пад ціскам свядомасці аб трагічным становішчы праваслаўнай Царквы на радзіме і ў свеце М. Сматрыцкі ўпаў у глыбокі духоўны крызіс і стаў прыхільнікам сваіх ворагаў — уніятаў і езуітаў.

Пасля вяртання на радзіму М. Сматрыцкі патаемна перайшоў ва унію, напісаў кнігу „Апалогія", у якой намагаўся апраўдаць унію, адмовіўся ад сваіх папярэдніх поглядаў, атакаваў Праваслаўе, яго духавенства і свецкіх дзеячаў. Затым выдаў „Парэнесіс або напамін" і іншыя творы, у якіх выступіў як заўзяты вораг свае ранейшае праваслаўнае веры і адданы прыхільнік уніяцтва. Кіеўскі праваслаўны сабор публічна пракляў гэтага здрадніка. З незвычайным захапленнем сустрэла гэтую здраду уніяцкая і каталіцкая іерархіі, услаўлялі пад нябёсы яго талент і адвагу, нават сам папа рымскі прыслаў яму пахвальны ліст.

Кароль, уніяцкія і каталіцкія іерархі спрабавалі выкарыстаць здрадніка для склікання уніяцка-праваслаўнага сабору ў Львове, каб пад выглядам „пагаднення" паміж праваслаўнымі і уніятамі заключыць новую унію і канчаткова вынішчыць праваслаўе. На львоўскі з'езд у 1629 г. з'ехалася ўся „вярхушка" уніяцтва на чале з мітрапалітам Руцкім — архібіскупы, біскупы, абаты, у тым ліку і Сматрыцкі — болей за сто чалавек, але не прыбыў туды ніводзін праваслаўны і уніяцка-езуіцкая інтрыга правалілася. Пасля гэтага апекуны здрадніка пакінулі яго ў забыцці. Памёр М. Сматрыцкі ў 1630 г. у адзіноце ў Дзерманскім манастыры.

Для праваслаўных стаўся ён перасцярогай, як чалавек няцвёрды, хісткі ў сваёй веры, які можа паддацца ціску непрыхільных абставін, варожай прапагандзе і стаць звычайным здраднікам, навечна загінуць для свае грамадскасці і Царквы. Пра гэта кожны з нас павінен памятаць, асабліва ў нялёгкія сённяшнія часы.

**Мікола Гайдук**

## Роздумы Дзядзькі Кваса *)

Многім нашым чытачам асобу Дзядзькі Кваса прыпамінаць не трэба, але малодшаму пакаленню неабходна коратка прыгадаць, што гаворка ідзе тут пра Міхася Красоўскага з Малынкі, які ў 1959—1984 гадах на старонках „Нівы" пад такім псеўданімам друкаваў празаічныя і вершаваныя творы.

Вялікую ўвагу чытачоў „Нівы" прыцягвала ў свой час „Палоска Дзядзькі Кваса", на якой з'яўляліся ўспаміны з жыцця беларускай вёскі ў пачатку нашага стагоддзя, палемікі з іншымі карэспандэнтамі на тэмы, якія ў той час хвалявалі нашае асяроддзе. Многае з напісанага Дзядзькам Квасам вартае было асобнай кніжкі, паколькі змяшчае яно ў сабе пазнавальныя вартасці і для маладога пакалення з'яўляецца крыніцай ведаў пра нядаўняе мінулае.

У 1985 г. Віктар Рудчык, развітваючыся на старонках „Нівы" з Міхасём Красоўскім, пісаў: „Жаль, вялікі жаль, што Дзядзька Квас не дачакаўся асобнага зборніка твораў". І вось на дзесятым годзе пасля смерці Дзядзькі Кваса выйшла кніжка „Роздумы на калёсах", у якой сабраны творы з 1961-1984 гадоў. У першых двух раздзелах аўтар знаёміць чытача з лёсам жыхароў Малынкі перад 1915 годам і ў час бежанства. У чарговых двух раздзелах змешчаны абразкі з жыцця даваеннай вёскі і замалёўкі, якія адлюстроўваюць пераўтварэнні ў пасляваенным вясковым грамадстве. Апошні раздзел адведзены гістарычным і маральна-бытавым разважанням аўтара.

Кніжку выдала Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", дзякуючы спонсарству Міністэрства культуры і мастацтва. Новае выданне можна купіць або заказаць у рэдакцыі „Нівы".

(вл)

-----------------------

*) Дзядзька Квас, *Роздумы на калёсах*, Беласток 1995, сс. 196, цана 4 зл.




*БАРЫС РУСКО*

### Ты жывеш

Ты не памёр.
Уміраe ліст, што спаў з дрэва,
і пяро, што згубіла птушка,
і камень пакрышаны на пясок,
і воблака паглынутае зямлёй,
і слова нявыказанае,
і дружба неразважна
пакалечана.
Ты жывеш.
І не таму, што я гэтага хачу,
жывеш, бо памяць, як жыццё,
трывалая.

### На каленях

Над сабою пахіліўся чалавек,
а бура сціхае
і ўзнімаецца,
а хвалі гудзяць,
і ўчынкі твае жывуць,
і зло ёсць злом,
і дабро — дабром.
Праз сіта працякаюць памылкі
ў макавае зярнятка,
за рэшту атрымаеш па заслугах.

### Воля розуму

Калі Розум захоча, вачам
убачыцца:
а мора спачывае на дне,
а тыгр, замест анёла, над
калыскай,
а камета — сонечны матылёк,
а зямля паўзе слімаком.
Калі Розум захоча, вачам
убачыцца:
а мора напружвае мускулы,
а на зубах тыгра кроў,
а камета раскалола зямлю,
а зямля авалодала чалавекам.
Калі розум захоча, вочы
закрыюць павекі.

### Сцэна

Конніца зорак рвецца ўперад,
а поле да канца не ўзаранае,
а мячы навостраны,
а кашолка поўна зерня,
а бітва белая,
а тое, што ўзышло — Слава.

### Да тонкай энергіі

Найкарацей да Неба —
з Эйнштэйнам.
Дарога шырокая
і экіпаж цягучы.
Уяўнае цела пад крылом
звышсветлавым
тонкі змест Прыроды плодзіць.
Ды ці захоча Майстар сесці
за руль
і сказаць, што ўбачыў.

### Далёка

Як адсюль далёка да
Карцін
недаконачаных,
жывых,
свойскіх.
Як адсюль далёка да
Любові
не гарачай,
летняй,
простай.
Як адсюль далёка да
Імкненняў
не боскіх,
рэальных,
зразумелых.
Як адсюль далёка да
Іншасці
не ўяўнай,
суседскай,
блізкай.
Як адсюль далёка да
Праўды
няпоўнай
жмені,
дробкі.
Як далёка
З зямлі да Зямлі.

### Даспяванне

Дзень узнімае крылы і гасне,
як матыль.
А зямля даспявае
і далоні блізка зерня.
Вартасць хвіліны дня
і жмені зямлі,
і даспявання
ведае толькі араты.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У Чаромсе

— Мы ўжо даўно хацелі запрасіць „Зорку” на ёлку, — сказала на прывітанне настаўніца беларускай мовы Галіна Саўчынская.

Усе ў школе ўсцешыліся з нашага спаткання. У Чаромсе (вёсцы) „Зорку” ведаюць, хаця дзеці маюць вялікія цяжкасці, каб дастаць „Ніву”. Прывозіць яе настаўніца і чытае дзецям. Мае новыя сябры паабяцалі быць вернымі чытачамі дзіцячай старонкі. Найбольш, зразумела, зацікавілі іх усялякія конкурсы.

У вёсцы Чаромха ўсе дзеці вывучаюць беларускую мову. Праўда, іх толькі дзесяцёра, але ўся школа такая маленькая. Вучацца там дзеткі з першага, другога і трэцяга класаў. Разам з імі шасцігодкі. Далей школьнікі прадаўжаюць сваю навуку ў суседнім пасёлку, які таксама называецца Чаромха. Там разам з імі многа іншых дзяцей з навакольных мясцовасцей: са Ставішчаў, Вулькі-Тэрахоўскай, Полаўцаў, Кузавы, Зубачоў, Янцэвічаў, Баброўкі, Бэрэзышча, Рэпчыц, Апакі-Вялікай, Пагулянкі, Чаромхі. Але тут, у вёсцы Чаромсе, у ціхім, прасторным школьным будынку, дзеці адчуваюць сябе вельмі добра. На перапынках гуляюць на панадворку. Няма таксама старэйшых дзяцей, якія даказвалі б ім сваю важнасць. На памятку мы зрабілі многа здымкаў.



*Настаўніца Галіна Саўчынская з вучнямі II і III класаў.*



*Дашкольнікі таксама хацелі пазнаёміцца з "Зоркай".*

Сярод выдатнікаў настаўніца назвала Рафала Раманюка, Томка Кердалевіча і Госю Шымчук. „Зоркай” пацікавіліся не толькі другакласнікі і трэцякласнікі. Самыя маленькія шасцігодкі таксама хацелі пазнаёміцца з нашай газетай. Яны напэўна будуць вывучаць беларускую мову.

**Ганна Кандрацюк**

**Фота Міколы Ваўранюка**

# Аня Сухадола



У конкурсах беларускай песні для малодшых школьнікаў ужо трэці раз запар у катэгорыі салістаў перамагла Аня Сухадола з Нараўкі. Аня канчае чацвёрты клас. Яе класнай выхавацелькай з'яўляецца пані Ядвіга Карпюк, а музыкі вучыць пані Аліна Саевіч.

Аня паходзіць з музыкальнай сям'і. Яе дзядзькі — гэта вядомыя ў наваколлі гарманісты. Мала таго, адзін з іх, Янка Сухадола са Старога Ляўкова, быў у мінулым лаўрэатам конкурсу беларускай песні для дарослых. Аня таксама ўжо прабуе іграць на татавым акардэоне, пакуль яшчэ ён крыху завялікі і цяжка перабіраць акорды. Затое ўжо ад трох гадоў Аня іграе на электронных арганах; вучыць яе настаўніца музыкі Аліна Саевіч. Аня спявае не толькі сола, але выступае таксама ў дуэце (сёлета разам з Паўлінай Місяюк заняла таксама першае месца) і ў школьным калектыве „Душкі з пушкі”. На пытанне, як часта вядуцца заняткі ў калектыве, Аня адказвае што толькі перад выступленнямі. Аня думае пра далейшую музычную адукацыю. Тата Ані, Міхал Сухадола, мае на думцы музычны ліцэй. У музычным кружку (агніску) пакуль што яшчэ не займаецца: самастойна ездзіць у Гайнаўку яшчэ замалая, а давозіць бацькі не маюць, пакуль што, магчымасцей. На маё пытанне, як даецца навука ў школе, Аня адказвае, што добра. Напэўна дома гаворыш па-беларуску, гавару. Так, адказвае, асабліва з бабуляй Мар'яй. На маю просьбу, каб сфатаграфавацца з унучкай, Мар'я Немірович адказвае, што яна ўжо застарая. Што ж і бабуля і ўнучка вельмі скромныя. І актуальныя магчымасці музычнай адукацыі таксама скромныя. Бо калі б Аня жыла ў горадзе, магла б яна вывучаць спеў, ці ігру на інструментах у пазашкольных музычных кружках. Тое аднак, што Аня перамагае гарадскіх канкурэнтаў у адказных спаборніцтвах з'яўляецца доказам незвычайнасці яе таленту. І жадаць трэба Ані ажыццяўлення не толькі яе музычных планаў, але і мараў.

**Аляксандр Вярбіцкі**

## Вершы Віктара Шведа

### Чыя праўда?

Часта лае на занятках
Настаўнік Міколу:
— Пасылае цябе матка
Па навуку ў школу.

— Пасылае мяне маці
У школу, вядома,
Каб спакойна было ў хаце,
Не шалеў каб дома.

### Цяжкі адказ

Задаў пытанне нечакана
Настаўнік на занятках.
Ваня ля парты знерваваны
Стаяў як немаўлятка.

— Можа за цяжкае пытанне,
Што ты маўчыш як рыба?
— Ды не пытанне, кажа Ваня,
Адказ за цяжкі хіба.

### Змораны бусел

— Наша вясковая суседка, —
Сказаў маленькі хлопец, —
Дзевятую ўжо мае дзетку,
Хто ведае, ці хопіць?

— Як чуецца дзяцей мамуся? —
Спыталіся Паўлушу.
— Мамуся добра, толькі бусел
Ледзь крыламі варушыць.




**Дарагая „Зорка”**

Дзякую за надрукаванне майго вершыка. Мой коцік так і не знайшоўся. Але ў бабулі шмат іншых цікавых звяркоў:

У мае бабулі
сапраўдны звярынец:
першы ў ім конік,
хутканогі Орлік,
другая — кароўка —
рагатая ялаўка.
І яе дачушка —
пярэстая цялушка,
побач свінка і яе дзіцяткі —
смешныя ружовенькія парасяткі.
На падворку пеўнік
курак прызывае
і „Кукарэку!” раніцай спявае.
Тры каткі плюшчаць вочкі
і мурлыкаюць трошкі.
Люблю я бабулі звярынец:
з коцікам гуляю,
каня паганяю,
парасятка даглядаю
і цялушку абдымаю.
І толькі шкада,
што няма ў маёй бабулі
афрыканскага слана!!!

**Цалінка Глагоўская**
**Гданьск**

**Ад рэдакцыі:** Цалінка, твае вершы вельмі цікавыя. Разам з усімі дзецьмі цешуся, што Ты пішаш у „Зорку”. Калі можаш, дашлі нам свой здымак і далей пішы ў нашую дзіцячую старонку.

**Зорка**

# Дзіцячыя малюнкі

**Дарагая „Зорка"!**

Я вучуся ў Пачатковай школе ў Орлі. Вывучаю беларускую мову і вельмі люблю рысаваць. Хачу, каб мае рысункі знайшліся на Тваіх старонках.

**Павел Кубаеўскі, V клас**

**Ад рэдакцыі:** Паўлік, з прыемнасцю надрукуем твае чароўныя малюнкі. Думаю, што і ўсім нашым чытачам яны спадабаюцца. На будучыню хацела б папрасіць цябе, каб твае малюнкі былі чорна-белыя, бо толькі такія найлепш друкаваць у нашай газеце.

Вядома, кожны твой новы ліст мяне вельмі ўсцешыць. Твае працы папоўняць і ўпрыгожаць нашую „Зорку". І яшчэ напамінаю, што ты будзеш удзельнікам нашых штомесячных конкурсаў.

**Зорка**



### Смешны плач

— Чаго ты плачаш тут дзяўчынка? —
Слязамі гору не паможаш.
— Мне ў вочы трапіла пясчынка.
Пясчынку слёзы выгнаць могуць.

### Шасцігадовы баксёр

— Зноўку татачка забыў? —
Ты мне грушу не купіў!
Дык цяпер табе задам —
Замест грушы будзеш сам!

### Пацеха

З татам мы прыйшлі у гай.
— Тата ў гаі — папугай!
Ён умее адмыслова
Паўтараць за мною словы.
Тата кажа:
— Вось пацеха,
Папугай у гаі — рэха.

### Кабачок

У агародзе кабачок,
Як бычок ці парсючок,
Заваліўся на бачок,
Затаіўся і маўчок.

**Станіслаў Валодзька**

# ГАЛАВАЛОМКА



Ці ўмееце лічыць і будаваць? Калі так, паспрабуйце з гэтых частак пабудаваць параход. Размалюйце яго каляровымі алоўкамі.



**Мартынка Леванеўская з Міклашэва** нядаўна наведала ў Беластоку свайго дваюраднага брацiка **Радуся Мацiевiча**. Мартынцы ўжо пяць з паловай гадоў, ужо ведае літары, а восенню пойдзе ў „нулявы" клас у Нараўчанскую школу. А Радусю толькі сем месяцаў, літаркі ведае, „чытае" іх ручкамі, а ўмее сказаць „баба", „мама", „ляля" і свайго коціка называе Мяў.

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Ваяцкі здрой

Побач мястэчка Кузніца, што ў самым усходнім куточку Беластоцкай зямлі, прытулілася, віецца, цурчыць невялікая рэчка Ласосьная, ці як яе любоўна называюць мясцовыя людзі — Ласасянка. То выскачыць яна на паплавец, то ў лазовыя кусты схаваецца, з'явіцца каля агародаў, або пад мосцік нырне. А ўсюды па ёй брады і віры, крынічкі ды плёсы параскіданы. І толькі скажы кузнічанам, што іхняя рэчка надта ж прыгожая, яны з задавальненнем выслухаюць пахвалу, бо любяць сваю рэчку, і адразу не прамінуць прыгануць легенду пра самы глыбокі вір на ёй, які завецца Ваяцкі здрой.

Кажуць, што здарылася тое калісь-пракалісь, як тут, паміж рэкамі Бобраю і Нёманам вялікая пустэча была. А па той пустэчы гуртамі гулялі-скакалі на борздых конях вольныя малойцы-ваяры. Па звонкіх барах яны гарцавалі, а пад разгалістымі елкамі начавалі. І ніхто не здолеў тудою ні прайсці, ні праехаць...

Як спаймалі яны фанабэрыстага ды неспагадлівага баярынапана, то бабровае футра ды ядвабныя адзежкі з яго здзіралі і галышом на шлях пускалі. Калі ж купец-ашуканец ім падвярнуўся, дык золата-срэбра забіралі, з пустымі кішэньмі прагане ялі. І ўсё-ўсенькае бядоце-галоце раздавалі. І жыла так тая вольніца, па лясах пасвістваючы ды па шляхах пагульваючы.

Але ж насталі неспакойныя часы: ворагі-захопнікі на тутэйшыя землі пачалі навальвацца, людзей у няволю браць, дабро рабаваць, сёлы ды гарады паліць. І вольныя малойцы-ваяры сваю зямлю ад нашэсцяў сталі абараняць, на ворагаў знячэўку нападаць, палонных суродзічаў ды нарабаванае дабро адбіраць, захопнікаў праганяць.

Аднойчы здарылася так, што непрагляднаю процьмаю насунуліся ворагі — іхняй раці канца і краю не было відаці. Біліся, змагаліся з імі малойцы-ваяры — усе палеглі, а варожай навалы паўстрымаць не здолелі. Толькі аднаго-аднюсенькага ваяку маладзюсенькага вараны конь з бою вынес.

Імчыць конь, як віхор, храпе з натугі, пена з яго плахтамі валіцца ды траву-мураву ўсцілае. Схіліўся ваяр і ў самае вуха свайму збаўцы шэпча:

— Нясі мяне, конічак, нясі, вараненькі, да самай Гародні... Там князя нашага Вітаўта Вялікага папярэдзіць трэба, што ворагі чорнай хмарай на нашу зямлю валяцца. Няхай князь ваяроў-абаронцаў падымае...

Чуе конь, што ягоны гаспадар ледзь на сядле трымаецца, ад ранаў млее. Спяшаецца конь, усе сілы напружвае. А тут яму дарогу рэчка перагарадзіла. Зморанаму каню яе ніяк не пераадолець. Спыніўся ён на беразе ды журботна заіржэў.

Ачнуўся вершнік, глядзіць: рэчка цячэ, а каля яе берага здрой б'е ды ў бяздонны вір уліваецца. Бязвольна ссунуўся ён з сядла, падпоўз да берага і засмаглымі вуснамі прыпаў да здрою. Прагавіта глытнуў раз, глытнуў другі, а калі глытаў трэці раз — раптам пахіснуўся ды паваліўся проста ў бездань віру. Закружыўся вір, зашумеў хваляй ды малайца-ваяра засмактаў у сваю бездань.

Бачыць конь, якая бяда сталася. Заіржэў ён роспачна і кінуўся ў ваду ратаваць гаспадара з прорвы. Але ж закруціўся вір, усpеніўся ды праглынуў і каня.

І ўжо некаму было вестку князю занесці, пра варожае нашэсце папярэдзіць. Ніхто ваяроў на абарону роднай зямлі не склікаў. Гулялі ворагі процьмаю, у нявольнічыя путы людзей вязалі, дабро расцягалі, зямлю попелам усцілалі.

І ўзбурыўся вір, на няшчасці чалавечыя гледзячы, усхадзіўся і аж на стромкі бераг пеністаю хваляю хліснуў. І з'явіўся з бездані той самы юнак на кані. Але ўжо і не той самы: бо велічны і здаровы на імклівым вараным жарабцы з развеянай грывай.

Звочылі яны ворагаў: узняў вершнік аберуч востры меч, а конь закусіў цуглі і ўздыбіўся ды так рынуліся яны ў гушчу захопнікаў. Юнак-ваяр направа і налева мячом сячэ, а конь капытамі топча ды зубамі рве.

Біліся яны так, змагаліся з самага ранку і аж да змяркання. Пабачылі наезнікі, што тут не жартачкі — не адолець ім незвычайнага ваяра. Кінулі яны захоплены палон ды нарабаванае дабро, павярнулі сваіх коней і — ходу з тутэйшай зямлі. А вершнік-юнак на кані-жарабцы гналіся за імі датуль, пакуль не зніклі яны за межавымі капцамі.

Зmoраныя і ваяр і ягоны конь зноў спыніліся на той самай рэчцы і да таго ж самага здрою схіліліся, каб смагу спагнаць. Але ж не паспелі яны і крынічнай вады прыгубіць, як з віру ўздыбілася агромністая хваля, хліснула на бераг ды вершніка з канём у бездань змыла.

Безліч гадоў з таго часу прамінула. Абмялела Ласасянка да таго, што вада ў ёй ледзь па калена чалавеку сягае. Ваяцкі здрой таксама ледзь сачыцца з-пад куста ракіты, а бяздонны вір амаль зусім пяском занесла. Але вада ў ім улетку па-ранейшаму такая сцюдзёная, што аж у зубы заходзіць, а ўзімку ён ніколі не замярзае. Цяпер там гаспадыні з навакольных сялібаў малако халодзяць. Штодня ранкамі і вечарамі прыносяць туды або вымаюць адтуль поўныя конаўкі сырадою. І калі Ласасянка патанае ў густой імгле, з Ваяцкага здрою ўражаным дзяўчатам і маладзіцам явіцца юнак-ваяр з аберуч узнятым мячом ды на імклівым кані з развеянай грывай. Праплываюць яны над паплаўцамі і кустамі ды знікаюць недзе там, на ўсходзе, дзе рэчка Ласасянка, як кажуць, улівае свае воды ў магутны Нёман, на беразе якога высяцца ў Гародні рэшткі мура ў Вітаўтавага замка.

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

# Хачу даведацца хто я

— Калі ў Савецкім Саюзе пачалася перастройка, — гаворыць Валеры Балтуноў, — я завёў кантакты з прарэктарам Хомчыкам з варшаўскай Політэхнікі. Пачалі мы ладзіць бізнес. Справы ішлі добра, нядрэнна зарабілі ў той час. Потым заснаваў з польскім калегам супольнае прадпрыемства (joint venture). Калега паручыўся за крэдыт сына, а сын яго абанкруціўся. Занялі нашу падваршаўскую маёмасць за той крэдыт. Мне сказалі, што мог бы я захаваць сваю частку, калі б меў польскае грамадзянства. На гэта аднак патрэбны польскія карані. Я — карэнны рускі, а жончына мама — з польска-беларускай сям'і. Яе дзед, граф Валынскі, меў вялікі маёнтак на Беларусі. Бацька маці быў няшлюбным дзіцём графа са служанкай. Калі бацька вырас, граф сказаў яму: „Я тут не магу нічога даць, але едзь ты ў Сібір і вазьмі сабе там няўзнятай зямлі колькі хочаш". Быў гэта час сталыпінскай рэформы. Ён паехаў у Сібір і багата зажыў, а асабліва багата павыдаваў дочкі замуж. У мужа адной з іх адмірал Калчак узяў мільён залатых рублёў.

— Я ўжо рашыла шукаць свае польскія карані па графу Валынскім, — кажа жонка Валерыя, Людміла, — калі падчас размовы пра гэта мая сваячка Маруся сказала, што я не мушу шукаць польскіх каранёў графа, бо я сама — карэнная полька. Сказала мне яна, што не з'яўляюся дачкой маёй маці Бялышавай, унучкі графа Валынскага, толькі польскім дзіцём, прывезеным падчас дэпартацыі палякаў у Казахстан. Маці мая, — гаварыла яна, — пасля акупацыі Польшчы перайшла са мною з акупіраванай немцамі тэрыторыі ў Беларусь. Адсюль саветы вывезлі яе разам са мною ў Сяміпалацінск. Тут яна была надоўга, пакінула мяне сям'і Бялышавых, а сама кудысь падалася, мабыць, з польскім войскам генерала Андэрса.

І я пачала корпацца ў памяці і прыпамінаць нейкія асаблівыя эпізоды. Бамбёжка, а пасля агромная дзіра ў столі. Я ляжала доўга, мо некалькі дзён. Я яшчэ сёння баюся глядзець на зорнае неба. Забрала мяне адтуль нейкая жанчына, мусіць нечужая была, бо я яе не баялася. Не знаю, ці гэта была маці, ці можа проста гэта была нейкая беларуская жанчына, якая працавала ў доме маіх бацькоў або іх суседзяў. Маці я не помню. Помню бацьку. Гавораць, што дзяўчынка больш прывязваецца да бацькі, чым да маці. Калі бацька прыходзіў дадому ў мундзіры, я бегла да яго, ён браў мяне на рукі, я здымала яго шапку-рагатыўку, клала сабе на галаву, а потым вешала на вешалцы. Потым помню, што я была недзе на вёсцы, дзе былі свінні і гусі; мабыць, гэта была беларуская вёска — у Сяміпалацінску ні гусей, ні свіней не было. Я мела ляльку — салдаціка ў рагатыўцы, і мяне называлі Лялькай. Я была глухая, бамбёжка мне кантузіла слых. І яшчэ тая Маруся сказала, што ў мяне на шыі быў нетыповы, бо каталіцкі, крыжык. А называлася я Касяй або Казяй, але маці сказала, што гэта брыдкае, сабачае імя і пачалі называць мяне Лялькай. Тую жанчыну, што мяне ў Сяміпалацінск прывезла і там мяне пакінула, не знаю, ці гэта была мая маці, ці чужая, я разумею. Маладая была, жыць хацела і пайшла за арміяй Андэрса, ці мо гэта былі нейкія іншыя маладыя салдаты.

У маёй маці, Бялышавай, былі хлопчык і дзяўчынка; абое памерлі. У цёткі, мамінай сястры, было трое дзетак, хлопчык і дзве дзяўчынкі. Адна дзяўчынка, Людміла, мая равесніца, памерла і яе пахавалі быццам бы гэта мяне пахавалі, а я ў дакументах заняла яе месца. Бо падчас вайны, калі жанчына мела трое дзяцей, не мусіла хадзіць на работу, але калі толькі двое, трэба было хадзіць працаваць. І я была патрэбная, каб ёй аставацца дома. Я два гады не гаварыла, бо не чула. Мову я распазнавала па вуснах. Яшчэ сёння, калі гавару з людзьмі, не гляджу ім у вочы, толькі на вусны. Да дактароў мяне не вадзілі, бо не было за што. Вадзілі па бабках і кантузія мая пачала праходзіць. Я загаварыла, спачатку па-беларуску. Дома гаварылі талерка, а не тарэлка, як у іншых. І песні дома спявалі беларускія, пра перапёлку. Жыло ў нашай хаце тры сям'і: гаспадары, якім рэквізавалі палову дома; яны жылі ў сваёй палове, а ў той сканфіскаванай — мая мама і цёця. Добра мы жылі, бо многія пасяліліся ў зямлянках. Мяне трымалі дома, на вуліцу не выпускалі бо баяліся, каб хто не даведаўся, што трымаюць польскае дзіця, за гэта мог быць і расстрэл. Потым хадзіла я ў



школу, навука давалася мне лёгка, хаця і хваравітая была я. Аднойчы ў Сяміпалацінск перасялілася жанчына з Ленінграда, якая пачала там арганізаваць балетную групу. Прыйшла яна і ў нашу школу шукаць кандыдатак. Са ста дваццаці дзяцей выбрала толькі адно — мяне. Невялічкая я была, а ў балет рослыя непрыгодныя. Калі маці, вясковая жанчына, пра гэты балет даведалася, забараніла мне, бо лічыла гэта нечым вельмі непрыстойным. Але пра гімнастыку то мусіць нічога не чула, бо не бараніла, хаця гэта амаль тое самае. І я атрымала разрад па гімнастыцы і па лёгкай атлетыцы. Дзесяцігодку закончыла я з медалём. Далі мне бацькі грошай і адправілі ў Маскву на экзамен ва універсітэт. Апрача медаля і спартыўных разрадаў мела я яшчэ і грамату ЦК Камсамола Казахстана. А на факультэт хіміі, куды я падалася, выпадала аж пяцьдзесят кандыдатаў на адно месца. Ну, думаю, не праб'юся, прыйдзецца дамоў вяртацца. Скончыліся экзамены, іду я, бачу — чарга аграмадная. Стала я ў ёй і распытваю за чым гэта. Не прынялі, то стаім, каб забраць свае дакументы, адказалі мне. А адкуль ведаеце, што не прынялі, пытаю. А вунь спісак, адказваюць. Я туды, перашукала раз — няма мяне, перашукала другі раз, аж бачу маленькая картачка вісіць збоку, там пяць прозвішчаў, прынятых, сярод іх — маё! На трэцім ужо курсе паехала я на цаліну і там пазнаёмілася з Валерым, таксама з хімічнага факультэта і мы, як гэта гаворыцца, проста склеіліся. Неўзабаве пажаніліся, нарадзілася дзіця. Навуку закончыла я тэрмінова і нас накіравалі ў Новасібірск, у Акадэмгарадок.

— Доўга мы ў тым Акадэмгарадку не пабылі, — кажа Валеры. — Калі нашыя збілі над Уралам амерыканскі шпіёнскі самалёт U-2, Хрушчоў не паехаў на нейкую дагаварованую сустрэчу з Кенедзі. У нашым інстытуце склікалі сход, на якім усе падтрымлівалі рашэнне Хрушчова. А вось адзін вучоны сказаў, што ўсё-такі Хрушчову на сустрэчу варта было ехаць. Усе накінуліся на яго. Я ўстаў і гавару, што калега нічога дрэннага ж не зрабіў, ён толькі выказаў сваё меркаванне. Пасля гэтага не было мне ўжо месца ў Акадэмгарадку. Мы пераехалі ў Маскву. Пасля такіх вылазак то не кіравалі ў Маскву, толькі ў другім напрамку. Мой тата, аднак, калі я выехаў у Новасібірск, не зняў мае прапіскі і я вярнуўся на „сваё".

— Гэты новасібірскі „хвост" яшчэ цягнуўся нейкі час за намі. Пасля мужу ўдалося паехаць на працу ў ГДР. Я асталася ў Маскве, бо з СССР цэлай сям'і не пускалі за граніцу — баяліся каб не ўцякалі. Прыехала да мяне мама з Сяміпалацінска, яна была хворая, аднялі ёй ногі. Не хацела, каб мне сказалі, што я не яе дачка. Баялася, што яе адракуся. А мне здаецца, што калі б я пра гэта ведала, я цяплей да яе адносілася б. А то бывала, што і перагаворымся, і пасварымся; як гэта ў сям'і бывае. У дзяцінстве я адчувала ў адносінах да маці комплекс непаўнацэннасці, бо людзі, што нас наведвалі, гаварылі ёй: ты такая прыгожая, а дачка твая такая худая. Больш за маму я любіла цёцю, яе сястру. А людзі там былі вельмі добрыя, адносіліся да нас ідэальна, вельмі часта ратавалі нас ад голаду.

У Лешукі мы трапілі выпадкова; у Варшаве мы пазнаёміліся з Бартнікам, які тут меў сталярню. Прыедзем жыць да беларусаў, думалі мы, тут яны не будуць хаця смяяцца з нашай польскай мовы, бо я ж цэлае жыццё толькі на рускай гавару. Спрабавала я аднак загаварыць па-польску ў Нараўцы, то з мяне смеху нарабілі. Не мелі мы грошай, не мелі дзе жыць. На зіму прыняў нас Жора Пташынскі, бо ў яго хата пустая стаіць. Спачатку гаварыў пра аплаты, а потым сказаў, каб толькі за электраэнергію плацілі. А зімою то малако нам прыносіў. Калі ў нас з'явіліся грошы і мы прыйшлі заплаціць, то аднекваўся. А людзі прыходзілі да мяне, каб я нешта ім пашыла. Я бачыла, што ім гэтыя вопраткі, што ў мяне заказвалі, непатрэбныя — яны хацелі мне толькі плаціць, каб было нам за што пражыць. І многа нам памог Ярмоцік, што кіёск на прыпынку ў Нараўцы мае.

Даведаліся мы, што ў Навінах жыве Казлоўская, жанчына, якую вывезлі ў Казахстан. Паехала я да яе. Яна помніла мяне, дзяўчынку з лялькай у рагатыўцы. Падпісала яна распіску і прыказала, каб больш я да яе не прыходзіла. У яе была дзяўчынка, 1937 года нараджэння, як і я. Дзяўчынка загінула ў Казахстане.

Хочам атрымаць карту пастаяннага жыхарства. Тут вось, на лешуцкім хутары знайшлі пустуючую хатку, дагаварыліся з уласнікам, што ён нам зробіць даравую, а мы яму дамо падзяку. Заплацілі ўжо задатак і чакалі, каб паехаць у Бельск і ўсё аформіць. Але ён, калі трэба ехаць у Бельск — хворы, затое, калі прыязджае на гэты хутар, гаворыць што яна больш вартая, што за нейкае дрэва ўзяў бы добрыя грошы. Нават на бочку, якая ўжо рассохлася і мы яе збілі і адмачылі, прыводзячы ў годнасць, сказаў што яшчэ можа яе прадаць. Войт не хоча нам даць карты пастаяннага жыхарства, гаворыць, што гмінная рада не згаджаецца. А нам знаёмыя радныя гавораць, што нас падтрымоўваюць. А жыхары Лешукоў проста стаяць за намі сцяною. Войт пэўна баіцца, што, беручы нас на пастаяннае жыхарства, прыйдзецца ўтрымоўваць нас з фонду сацыяльнай дапамогі. Але мы яе не хочам, мы самі здолеем пратрымацца.

Мы кінулі свой бізнес і маглі б вярнуцца ў Маскву. Можна было б махнуць рукою на гэта польскае грамадзянства. Але я хачу даведацца хто я. Аднойчы я ехала з Мальбарка ў Варшаву. На адной станцыі каля Варшавы я ўбачыла касцёл з чырвонай цэглы з востраканцовымі вежамі. Гэта той самы касцёл, што я нашу ў памяці; такі самы. Я веру, што знайду і тую мясцовасць і тыя вуліцы і тое месца, дзе я нарадзілася.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

P.S. Магчыма, што жанчына, якая вывезла гераіню гэтай гісторыі, паходзіць з Беласточчыны. На імя ёй было Вольга. Быць можа нехта з чытачоў ведае пра гэтую жанчыну, якая да 1939 года жыла недзе ў Цэнтральнай ці Заходняй Польшчы, а ў 1939—1941 гадах прабывала ў роднай вёсцы з 3—4-гадовай дзяўчынкай-нямовай. Дзяўчынку звалі Лялькай, або Касяй ці Казяй ці нейк падобна. Жанчыну тую на пачатку 1941 года саветы вывезлі ў Казахстан. Калі хто такую помніць, можа памятае, у якім польскім горадзе і ў каго яна працавала. Калі так, прашу напісаць у рэдакцыю. Бо сама Людміла Балтунова, не ведаючы кім яна і каго шукае, наўрад ці знойдзе свае карані.

**А. В.**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XV**

Сёння адклікаюся ў далейшым да прызнанняў Сцяпана Багнюка.

„Ну я тут табе так моцно захвальваю жыдоў і гавару, што яны патрэбны ў беларускім правіцельстві, а ты можэш сказаці, а што гэто жыды то ні п'ют, у карты ні грают і да бабаў ні лезут? Вядомо, што і жыды бываюць розны. Але ўсё ж такі трэбо сказаці, што жыд знае меру ва ўсім, а наш брат яе ні мае. Гэто па-першэ, а па-другое то, бачыш, калі такі адзін, другі чы трэці жыд будзе ў беларускім правіцельстві, то ён будзе ведаці, што ён живе і працуе на ачах мільёнаў беларусаў і таму ён будзе трымацца так як і мы трымаемся, калі пападаем да чужых людзей. Ну, а кроме гэтаго ўсяго то яшчэ ест такое адно дзело. Калі наш чалавек выб'еца ў вялікі начальнікі, то яму ўжэ напляваці на ўсіх і ён нікого ні слухае. А ў жыдоў то іншы парадок. У іх ест кагал і такі кагал прыглядаецца да каждаго жыда і калі добрэ то добрэ, а калі ён пачынае паступаці кепско, то возьмут яго ў кагал і так яму з усіх бакоў насовают піздзюлей, што яму адхочацца рабіці глупства і ён зробіцца як шолкавы.

От бачыш, Аляксандэр, з гэтых усіх прычын па-моему, жыды павінны быці ў беларускім правіцельстві. Ну і яшчэ адно дзело. Ні дай Бог, каб у беларускім правіцельстві былі рускія, украінцы, палякі чы літоўцы. Бо калі б былі, то памаленьку прадалі б Беларусь або Расеі, або Украіні, або Польшчы, або Літве. І беларусы самі ні замеціці б, як тую сваю нізалежнасць страцілі б. Ну, а што касаецца жыдоў, то яны ні ест для нас нібяспечны, бо Ізраэль вельмі далеко і нават калі б жыды гэтаго і хацелі, то Беларусі ні перададут у рукі Ізраэля, калі да яго тысячы вёрст.

Мне то здаецца, што без жыдоў у беларускім правіцельстві, то свет нам ні паможэ, а калі жыды ў правіцельстві будут, то паможэ. От гэто ўсё ты і скажы галаварам у Мінску. Калі ў іх у галовах крыху ест мазгоў, то паслухают, а калі там у место мазгоў сечка, то ні паслухают. Але тады ніхай самі шкадуют сваіх глупстваў, калі даб'ют гэту нізалежную Беларусь да ручкі.

Ты, Баршчэўскі, мяне пытаў пра тую, як ты кажаш, вяліку Родзіну, значыцца, пра Беларусь. Ну то я тут табе сказаў, як вэдлуг мяне павінна паступаці гэта вяліка наша родзіна.

А вогуле то я табе скажу, што гэта вяліка родзіна ні чарта ні думае пра беларусаў раскіданых па свеці. От і тут ты паглядзі як Ізраэль пераймаецца судзьбою жыдоў, каторы жывут у розных гасударствах, а Беларусь? Ей напляваць на тое, дзе жывут у свеці беларусы, як ім жывецца, чы крыўдзіт іх хтось чы ні крыўдзіт. Гэтым гэта наша вяліка Родзіна ні пераймаецца. Ну то я табе скажу так, калі Беларусь ні думае аб гэтых беларусах, то і гэты беларусы ні думают аб ей таксамо."

**Алесь Барскі**

# Пра дзесяць запаведзей

Пасля егіпецкай няволі прарок Майсей атрымаў на гары Сінай, або Харыў, непасрэдна ад Бога дзесяць запаведзей выразаных на дзвюх каменных дошках-скрыжалях. Кароткі тэкст ахопліваў усе асноўныя сферы рэлігійнасці і маралі. Першыя чатыры запаведзі акрэслівалі адносіны чалавека да Бога, апошнія шэсць — чалавечыя адносіны. Усе яны ставяць націск не на знешнюю форму і рытуал, але на гуманнасць і адрачэнне ад зла як галоўны, рэлігійны абавязак чалавека. Распрацаваныя і шырока пракаментаваныя запаведзі сталіся адначасова і рэлігійным, і свецкім кодэксам яўрэйскага народа, затым — дзякуючы Бібліі ды хрысціянству — агульначалавечай здабыччу. Іхны дух, калі не літара, сталі падставай заканадаўства большасці цывілізаваных краін.

Старажытнасць не ведала гэтак сінтэтычна сфармуляваных правілаў, якія ахоплівалі ўсё жыццё. Змест дзесяці запаведзей у сапраўднасці зводзіцца да двух: любові да Бога і да чалавека. Тым не менш кожная з астатніх запаведзей спасылаецца на прыродныя законы, кожна важная, універсальная і звышчасовая. Апрача ўслаўлення адзінага Бога і Айца, запаведзі заклікаюць святкаваць сёмы дзень тыдня, шанаваць бацькоў, не забіваць, не пралюбадзейнічаць, не красці, не сведчыць фальшыва супраць бліжняга і не пажадаць чужой уласнасці.

Запаведзі ставяць націск на справы аднолькава важныя для тых, хто верыць у Бога, і для бязбожнікаў. Ніводнаму сказу нельга адмовіць трапнасці і слушнасці. Яны быццам дарожныя правілы, выконваючы якія забяспечваем сябе ад самаволі іншых, а іншых — ад нашай. На вялікі жаль, шмат людзей намагаецца праехаць праз жыццё не зважаючы на сігналы і знакі. Гэта небяспечны эгаізм. Ён непазбежна выкліча катастрофу, у якой ахвярай будзе не толькі парушальнік правілаў, але і іншыя карыстальнікі „дарогі жыцця". Аўтамабіль і дарога — гэта толькі адзін з прыкладаў. Жыццё прыносіць тысячы іншых прыкладаў, не менш павучальных і красамоўных. П'янства — адзін з найбольш пашыраных грахоў — гэта не толькі прыватная справа самога п'яніцы. Яго трагедыю балюча адчувае на сабе сям'я, асяроддзе і грамадства. Маральныя і матэрыяльныя шкоды цяжарам кладуцца пераважна на нявінных людзей. Злодзей, трапляючы ў турму, робіць няшчасным не толькі сябе, але і сваю сям'ю. Распуснік хутчэй за ўсё нажыве сабе хваробу, а сям'і — сорам. Цяга да нядоўгатрывалай прыемнасці і прывіднай свабоды дорага абыходзіцца вінаватым і нявінным.

Зняважлівае стаўлене да агульнапрынятых нормаў, паводзін і аўтарытэтаў звычайна прыпісваецца моладзі. Яе бунтарскасць і непаслухмянасць накіраваныя аднак супраць упарадкаванага свету дарослых і гэта неад'емны атрыбут маладосці. Спакуса вызвалення ад ярма забаронаў і загадаў характэрная не толькі моладзі. Шэраг людзей па ідэалагічных меркаваннях намагаліся пераверануць скрыжалі, але пашкодзілі толькі сабе і грамадству.

Хаця рэчаіснасць свету і жыцця змяняюцца, аднак прынцыпы хрысціянскай веры і маралі застаюцца нязменнымі стагоддзямі. Яны трывалыя як законы прыроды. Хрысціянская этыка чэрпае сваю рашучасць і моц з нязменнай волі Божай, якая накіраваная на сапраўднае дабро і збаўленне чалавека.

Сучаснасць прынесла шмат спробаў адыходу ад традыцыйнай маралі. Адзін з сучасных этычных напрамкаў — сацыялагізм, успрымае мараль як сацыяльную з'яву, якая фармуецца з патрэбы практычнага сужыцця паміж людзьмі і ў адпаведнасці да грамадскай сітуацыі. Сацыялагізм выказваецца за адноснасць маралі — гэтак званы „рэлятывізм". Паводле гэтай тэорыі змена этычных нормаў з'яўляецца лагічным вынікам змены суб'ектыўных каштоўнасцей і прыярытэтаў сярод канкрэтнай сацыяльнай групы. Розніцы паміж нормамі маралі з'яўляюцца, такім чынам, вынікам іншага сацыяльна-эканамічнага развіцця. Этыка „сацыялагізму" ў адпаведнасці да свайго матэрыялістычнага светапогляду лакалізуе чалавека выключна ў зямным жыцці. Паводле яе свядомасць чалавека з'яўляецца крыніцай законаў, а сам чалавек, як істота грамадская, выпрацаваў некаторыя нормы сужыцця на свой уласны ўжытак. Адгэтуль вынікае, што ўсе нормы маюць умоўны характар і чалавек можа іх змяніць, калі яму яны не падабаюцца. Простая і зразумелая запаведзь „не забівай" не тычыцца рэвалюцыянера, які ў імя перамогі камунізму і для дабра сусветнай пралетарскай рэвалюцыі забівае буржуя, капіталіста, цара або іншага „ворага народу". „Не крадзі" таксама не мае абавязваючай моцы, паколькі залежыць „хто", „каму", „што" і „ў якіх акалічнасцях" украў, бо напрыклад экспрапрыяцыя памешчыкаў і фабрыкантаў у ніякі спосаб не лічылася злачынствам.

Побач з сацыялагічнай этыкай існуе гэтак званая „незалежная" этыка. Афіцыйна яна адмаўляецца ад сваіх рэлігійных каранёў, аднак не зважаючы на свецкую шыльду, захоўвае рэлігійны змест. Часта здараецца чуць пра „лекарскую", „настаўніцкую" або „сацыялістычную" этыку. У энцыклапедыі „Этнаграфія Беларусі" нейкі Шастаковіч піша: „Дарадчыкам працоўнаму чалавеку служыў не бог, але яго прыродная кемлівасць, знаходлівасць ды практыка жыцця... Народаўладдзе, грамадская ўласнасць на сродкі вытворчасці, справядлівы, сацыялістычны прынцып размеркавання, якія ўстанавіліся ў савецкай краіне пасля кастрычніцкай рэвалюцыі сталі той сілай, якая ўсталёўвае паміж людзьмі і народамі сапраўды чалавечыя, гуманныя адносіны". Такім чынам, паводле Шастаковіча, атрымоўваецца, што да 1917 года, да часу прымусовай калектывізацыі і экспрапрыяцыі памешчыкаў, на свеце была толькі здзічэласць і амаральнасць. У той жа энцыклапедыі іншы аўтар, Браім, піша на тэму народнага этыкету наступнае: „Усё дрэннае, усе негатыўныя з'явы — вынік антаганістычных, вытворчых адносінаў, культ багацця, шкоднае ўздзеянне з боку царквы і рэлігіі. Толькі сацыялістычны этыкет змяшчае ў сабе лепшыя рысы, прынцыпы і нормы народнага этыкету".

Дарэмна палемізаваць з гэтымі вучонымі тэорыямі, сфармуляванымі некалькі гадоў таму, паколькі ў свой час інакш пісаць было нельга і самі аўтары зараз гэтак не думаюць. Галоўная не тэорыя, але практыка. Калі б духоўнасць і асабліва мараль былі вынікам сацыяльна-эканамічных адносін, дык савецкае грамадства было б святым. На жаль, яно было чортавым насеннем, сапраўднай „імперыяй зла", толькі па ідэалагічных меркаваннях адмоўныя з'явы замоўчваліся, каб не псавалі надуманага, утапічнага вобразу. Зараз усё вызваленае зло ва ўмовах адноснай свабоды выплюхнула на паверхню, палохаючы само грамадства і ўздымаючы слушныя пытанні: „Адкуль гэта ўсё ўзялося?" Нават далёкія ад рэлігіі людзі ўсведамілі, што адной з прычын з'яўляецца бязбожнасць, безадказнасць за свае ўчынкі, стаўленне знака роўнасці паміж дабром і злом, бо сапраўды „калі няма Бога, тады ўсё дазволена". Васіль Сарычаў у месячніку „Крыніца" пісаў: „Складаны, супярэчлівы цяпер час. Гэта вельмі балюча зразумець, што шмат гадоў мы пакутавалі ад катаракты зроку, прымаючы мару за рэчаіснасць, абагаўлялі абсурды. Згадаем, аднак, думку некага з вялікіх: „Калі б Бога не было, Яго трэба было б прыдумаць". Не ведаю ці згаданы журналіст веруючы ці атэіст, але сапраўды гэтак думаюць проста добрасумленныя людзі. „Бяда ў тым, — канстатуе той жа Сарычаў, — што новых каштоўнасцей пакуль што ў нас няма. Ёсць толькі нігілізм, але ён не ствральны".

Новых каштоўнасцей сапраўды няма. Ідэі, якія прымусова нам прышчэплівалі, адыходзяць на сметнік гісторыі разам з ідэаламі, у якія нам загадвалі верыць. Ёсць аднак каштоўнасці пастаянныя. Перабягаю вось у думках вядомы мне з кніжак адрэзак сусветнай гісторыі і прыходжу да цікавай высновы. У мінулым часы бывалі таксама складаныя, заблытаныя і супярэчлівыя. Было прыгонніцтва, гвалты, войны і несправядлівасць, але ўсё роўна сацыяльна-эканамічны ключ неяк не падыходзіць да маралі. Незлічоныя выявы высакароднасці, прагу дабра і духоўнай чысціні нельга рацыянальна вытлумачыць. Пасля свайго хрышчэння князь Уладзімір упершыню усумніўся, ці мае права караць смерцю злачынцаў. Князёўна Еўфрасіння Полацкая добраахвотна адмовілася ад багацця і ўлады дзеля служэння свайму народу. Леў Талстой заміж памешчыцкай пыхі ўвасабляў евангельскую лагоднасць і прастату. Нейкая сіла схіляла незлічоныя тысячы людзей ахвяраваць нават сваё жыццё за іншых і нават пагроза смерці не заставіла адмовіцца ад іхных поглядаў. Аўстрыйскі жаўнер Шымэк у шэрагах гітлераўскай арміі літаральна зразумеў запаведзь „не забівай" і за адмову страляць у палонных сам быў расстраляны.

Дык відавочна ёсць у гэтым свеце ідэал, якога нават не дасягнуўшы нельга адкінуць. Аўтарытэту Бога не заменіць ніякі іншы аўтарытэт. Калі дабро можа быць адносным і заўтра лічыцца яно злом, а зло — дабрадзейнасцю, тады няма ўжо на што абаперціся.

Каменныя дошкі з дзесяццю запаведзямі — як матэрыяльны прадмет — праіснавалі толькі каля 850 гадоў. Каля 604 года вавілонскі цар Навуходаносар зрабаваў іх разам з іншымі яўрэйскімі каштоўнасцямі. Магчыма, яны ўжо знішчаны або прыхаваныя недзе ў зямлі, але іхняга зместу не знішчыць ні чалавек, ні час. Божыя законы запісаны ў чалавечых сэрцах, а Бог — паводле Святога Пісання — „учора, сёння і на векі той жа".

**а. Канстанцін Бандарук**




BORKOWICZ Jacek: Białoruś - niespełniona rewolucja. *Polska w Europie* 1994, z. 14, s. 108-118. Sum.

DANIELECKI Tomasz, GOLIŃSKI Cezary: Białoruś odetchnęła. Miasto (Białystok) pomoże znaleźć fundusze (BTSK). *Gazeta w Białymstoku* 10.02.1995 r., nr 35 (806), s. 1.

Eberhart Piotr: Polska granica wschodnia. Warszawa 1993; Rec. OPALIŃSKI Antoni, *Czasopismo Geograficzne* 1994, z. 3/4, s. 395-397.

FRASUNKIEWICZ Dorota: Białoruska pieśń doroczna: system modalny czy tylko jego elementy. (Autoref.) *Muzyka* 1994, nr 2, s. 98-102.

Hajduk Mikołaj: Unia Brzeska. Białystok 1995; Rec. WAKULUK Anatol; Książka: Unia Brzeska - więcej szkody niż pożytku. *Gazeta Tygodniowa* 23-30.04.1995 r., nr 8, s. 5, il.

JAKUS-BORKOWA Ewa: Badania struktur ojkonimów dla słowiańskiego atlasu onomastycznego. Zeszyty Naukowe. *Filologia Polska, WSP Opole* 1994, z. 32, s. 83-88.

JANOWICZ Sokrat: Kolonia czy przyczółek komunizmu? Wywiad. *Kurier Poranny* 26-28.05.1995 r., nr 118 (1421), s. 1, 5, il; Rep. HAJDUK Mikołaj: Nie pluć w twarz Białorusi! *Kurier Poranny* 2-4.06.1995 r., nr 124 (1427), s. 5; Odp. JANOWICZ Sokrat: Insynuacje bez dyskusji. Tamże, s. 5.

(kr): Pismo o Białorusi. Po przerwie znowu "Dyskusja". *Kurier Poranny* 15.12.1994 r., s. 6.

Lepešaú Ivan: Frazealahičny sloúnik belaruskaj movy. T. 1-2. Minsk 1993; Rec. AKSAMITAÚ Anatol, *Slavia Orientalis* 1994, nr 3, s. 432-434.

(mach): Władze chcą rozmawiać. Zarząd miasta (Białegostoku) o budynku BTSK. *Gazeta w Białymstoku* 31.01.1995 r., nr 26 (797), s. 2.

Matus Irena: Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej. Białystok 1994; Rec. MILEWSKI Jan Jerzy: Wielkanoc w Dawidowiczach. *Gazeta Tygodniowa* 23-30.04.1995 r., nr 8, s. 1, 5.

MINKIN Aleh: Szczególne trudności przekładu polskiej poezji na białoruski. *Literatura na Świecie* 1994, nr 10, s. 348-350.

NOVIK Uladzimir: Białoruś i Rosja: stan stosunków wzajemnych i perspektyw ich rozwoju. Tł. z ros. Eugeniusz Badowiec, Anna Naumczuk. *Eurazja* 1994, nr 1/2, vol. 1, s. 54-57. Sum.

PIERWSZE spotkania. Ambasador Białorusi (Georgij Taraziewicz) na Białostocczyźnie. *Gazeta w Białymstoku* 9-10.07.1994 r., nr 158 (625), s. 1, foto.

Širjaev J. J.: Ruś Belaja, Ruś Čornaja i Litva v kartach. Minsk 1991; Rec. WINNICKI Zdzisław Julian, *Rubieże* 1993, nr 2/3, s. 147-149.

TOCZEK Ewa: Białoruś. Europa Środkowo-Wschodnia, R. 2: 1992, s. 33-39.

WIŚNIEWSKI Tomasz: Kawałek Polski na Białorusi, cz II. *Kurier Poranny* 2-4.06.1995 r., nr 124 (1427), s. 4-5, il.

ZALAMAJ Uladzimir: "Wariant białoruski". Rozm. przepr. Valancin Ždanko. *Eurazja* 1994, nr 1/2, vol. 1, s. 58-60. (Białoruś wobec Wspólnoty Niepodległych Państw).

ŻURAWSKI Witold: Białoruś (Znaczki, flagi i historia). *Historyczno-Badawczy Biuletyn Filatelistyczny* 1992, nr 1/4, s. 72-80.

**Р. С.**

# АННА МАРКОВА

Нарадзілася 8 студзеня 1932 года ў Любліне. Скончыла польскую філалогію Каталіцкага люблінскага універсітэта. Жыве ў Беластоку. У гадах 1976—1982 працавала намеснікам галоўнага рэдактара Польскага радыёвяшчання ў Беластоку. Выдала зборнікі вершаў: „Czas bez tytułu” (1961) і „Matka wiosenna” (1978); зборнікі літаратурных мініяцюр і апавяданняў: „Akwarium” (1959), „Urlop” (1961), „Piętnaście kartek” (1966); аповесцей: „Wieczory” (1965), „Wczorajsze” (1966), „Bilet w jedną stronę” (1970), „Obiekt strzeżony” (1978).

### Сляды

Ізноў пад вецер
Пад дождж
Пад вячэрняе застыванне
гарызонта

Адварочваюцца бурыя скібы
Зямля галізною твару да неба
Артэрыяй карэнняў да сонца
Блытанінай раслінных венаў

У гэтым пейзажы калючым ад
шыпшыны
Пабялелым ад бяздомнага
цярноўніка
Такі след — жолаб ступняў
Круглы хісткі — гліняная
калыска

Калыханне ветрам слядоў
Выпаўнянне слядоў дажджом

### Чаму?

Калі баліць сэрца
Ныркі або вантроба
Гэта доказ — што яшчэ жывыя
Дык жадай болю
Чаму не жадаеш?

Калі ідзеш дарогаю
Якая занадта стромкая
Гэта доказ — што дзесьці вядзе
Дык спяшайся
Чаму не спяшаешся?

Калі нешта страціш
Што не споўнілася
гэта доказ — што было вартае
Толькі страты
Чаму шкадуеш?

Калі не памірышся
З кожным праміннаннем
Гэта доказ — што ўжо
паразумнела
Дык бадзёра праміна́й
Чаму не можаш?

### З'езд

Запрасілі мяне
Дзяўчыны з мінуўшчыны
На ўспамінкавы з'езд
Чвэрць стагоддзя ад атэстату
сталасці

Сядзім у даўнім горадзе
Не старыя і не маладыя
Кожная носіць свае гады
Быццам кош —
А ў кашы ўсё
Патрэбнае і лішняе

Бярэм з самога дна
Прадметы нязначныя
Імёны і сукенкі
Кніжкі захапленні
Вуліцы і агароды

Прабуем памятаць
Гэтае — што забытае
Маўчым гаманліва
За багатым сталом

### Лістападаўскія кніжкі

Гэта іх пара — лістапад
Найлепш калі вечар
Калі раптам гасне святло
І запальваецца некалькі свечак

Нельга тады адкрываць
Кніжак напышліва новых
Купленых месяц таму
Або толькі ўчора

Гэта гадзіна бабулек
Абшарпаных
Зачытаных
Бязлітасна выпрашаных
У чамаданы
У куфры
На гарышча

Гэта іх пара — лістапад
Месяц тых што ласкава
Клеплецца іх па вокладках
Дабрадушна ўздыхаючы:
„Якая ж ты старасвецкая
Эх, бабулька — ”

### Каб пісаць

Каб пісаць
Спрабуеш няўдала памірыць
Стыхіі звыш меры
Супрацьлеглыя кампаненты
Захапленні і начныя халады
Крык і маўчанне
Яркую кроў і лімфу
Прысутнасць — адыход

Каб пісаць
Прабуеш саскрэбці як скуру
З пяты закарэлай
Свае малыя страты
Вылавіць як інсекты
З бруднай вопраткі
Калькуляцыі балбатні
І з бразганнем затаптаць

Каб пісаць
Спрабуеш быць хоць крышку —
больш
На адзін уздых — мацней
На адзін крок — далей
Адны ўжо за ўзгоркам
А тыя — што засталіся
Смяюцца і пляскаюць у далоні
Як на камедыі

### Іншая просьба

Было гэта даўно
Калі мы ўмалялі:
Ад мору і голаду
Ад агню і войнаў...
Мы верылі, што хопіць
Хлеб мець, сон спакойны
А цяпер пара прасіць
Каб Бог нас збавіў
Ад паўслоў паўпраўдзівых
І фальшу маўчання
Ад роспачы бяссільнай
Што нам горла душыць
Ад іграў журботных
На пасрэдных сцэнах
Ад турбот за аб'едкі
Уратуй нас, Божа
Ад міласцін у палацах
Чакання за парогам
Ад літасці разменнай
Якая быццам камень
Ці мядзяк — што багацеі
Кідаюць убогім
Ад шэрасці збаў нас
Што твар зацірае
Ад пацучынай спешкі
Пры зямлі з вачамі
Не дазволь нам штодзень
Уміраць паўсмерцю
І дыхаць паўдыхам
Пакуль нам жывецца

*Пераклаў Віктар Швед*

# Як Кастэнцік з Чортам за зямлю біліся

*(быль)*

Жылі-былі Кастэнцік і Чорт, суседзі ды сваякі. Хто якім каму быў братам дакладна невядома, бо ўся вёска настолькі каранямі пераплецена, што не дойдзеш, хто каму стрыечны прадзед ці брат у сёмым пакаленні. Выраслі Борка Кастэнцік і Зюня Чортам званы з аднаго кораня, які потым разросся, выпусціў парасткі па ўсім свеце, нават у Амерыку ды Сібір. А кожнаму патомку Кастэнцікаў, што засталіся ў ваколіцы, дастаўся кавалак зямлі. Завуць іх цяпер па-рознаму, некаторыя нават не ведаюць, што сваяком будуць суседу з-за плота ці з канца вёскі

Цераз плот суседзямі ёсць Борка і Зюня. Не яднае ён іх, аднак, а раздзяляе. Па-першае, невядома, на чыёй частцы ён стаіць. Борка цвердзіць, што гэта ў ягоны агарод убіў слупы Чортаў бацька, а Зюня са свайго боку праклінае Кастэнцікавага продка, які нахабна ўрэзаўся на паўметра ў яго садок. У згаданым садку гібеюць ужо хваравітыя пакручаныя яблынькі, што вясной амаль толькі пустацвет выпускаюць, але на гмінных картах тут ад дзесяцігоддзяў красаваўся колцамі пазначаны сад. Падобна і дарога, абапал якой ляжыць вёска, даўно на краёвых дарожных мапах — чысты асфальт, а не разбітая жвіроўка, абляпаная па баках каровінымі блінамі. Дарога тая даўно ўжо змяніла сваё русло ад таго часу, як засноўвалася вёска, калі абселі яе маленькія хаткі Кастэнцікаў, што, выйшаўшы з пушчы, узяўшы грош за скуры і мёд ды руду, купілі той кавал зямлі. Тут яны досыць хутка ўзбагацелі настолькі, каб панамі сябе адчуваць — у бежанства адправіла іх гісторыя саліднымі гаспадарамі, якія мелі што шкадаваць, беручы ў далёкую невядомую вандроўку жменю дабытку. Кінулі тады ўсё — ад ладнага сасновага бору, меданосных пукатых вулляў, амаль выробленага поля (можна было яшчэ і ў пятнаццатым капаць лучыну на палетках), да маладых садкоў, ставаў, добрых пашаў на грудах пасярод дрыгвяністых балот, за якімі сядзелі галадранцы-басінцы, якія не ўмелі плугам кіраваць, то і ў галечы жылі. Было што кідаць, і старыя мужыкі без аглядкі, каб не плакаць, пайшлі на ўсход, галасілі і ўголас маліліся бабы, выносячы іконы.

Вярнуўся Боркаў бацька Федарко Кастэнцік на ўдзірванелае поле і збітыя былыя сенажаці. Курэў быльнёг, дыміла ваколіца знаёмым пахам гарэлага стэпу. Боркаў бацька вярнуўся з касавокай маладзіцай, нізенькай ды худзенькай, як трэсачка. Памерла шырокаскулая худзёба, Лінай яе звалі, нарадзіўшы дужманага хлопчыка. Борка з маткі ўзяў худэчу і чорны цвёрды волас, што дыбіўся над нізкім лобам.

У той жа год, дваццаць чацвёрты, нарадзіліся Борка і Зюня. Зюня, як казалі, „на заказ”, — прыйшлося Анопу Кастэнціку-Чорту, багацею ўжо толькі ва ўспамінах, цяпер голаму як бізун, узяць у нявесткі дачку-перастарку Данілы Місюка з Басіна. Гэлька з Самары з бацькам вярнуліся, у стэпе былі пахавалі матку (тыф яе забіў, як даканаў шмат іншых нашых людзей), выдзерлі з каранямі лазу ды бярэзнік, што ўварваліся на іхняе палетка, выбралі камяні. На Місюковым кавалачку казе не сесці, а радзіў ён толькі свірэпу ды пырэй. Гэлька ў бацька свайго Данілу не ўдалася, спакойная, ціхая, за сваё біцца не ўмела, але стары, убачыўшы яе з пукатым жыватом, што сарамліва хавала, сціскала яго хусткамі, схапіў сякеру і папёр да Кастэнцікаў, ляснуў дзвярыма, тваю матку! Мае браць, калі зганьбіў, але ў пасагу поля свайго — не, Даніла не дасць! А каму ж даваць? Дачцэ, якая толькі і вартая, што пойдзе чужым быць за няньку ды парабка? Колькі таго жыцця, што сам Даніла, вырваўшыся смерці, у свае пяцьдзесят гадоў можа ўзяць (незадоўга пасля Гэльчынага вяселля з Анопавым сынам згуляў і сваё, пабраўся з бяздзетнай удавой з хутара Мокрага; яе чацвёра дзетак у адзін год мор быў забраў).

У трыццаць дзевятым Борка і Зюня былі замаладыя, каб іх пабралі ў Савецкую Армію, што прыйшла на Беласточчыну. Аноп зноў пасхаў стэп асвойваць. Хлопцы трапілі пад Кёнігсберг, служыць вялікай Германіі ў баўэра. Борка збег, злавілі яго ўжо пад Бельскам. Аж у Аўстрыі ў лагеры застала яго свабода. Вярнуўся не той хлопец — сівавалосы, бяззубы, з параедзенымі цынгой дзяснамі. Зубы сабе новыя справіў праз амаль дваццаць гадоў, як у вёсцы стаў працаваць „асяродак здароўя” і апынуўся ў ім на паўгода зубны ўрач. Да таго часу неяк Борку не перашкаджаў недахоп у пашчэнках — ажаніўся з харошай дзеўкай, нажыў чацвёра дзяцей, паставіў на ногі гаспадарку, упарта не аддаsucc пад „калхоз” (што на вачах вырас, загробшы гаспадаркі і памёр натуральнай галоднай смерцю). Адно Борку заядала — у Зюні быццам усё ішло лепш! У ягоным садзе даспявалі чамусьці больш крамяныя яблыкі, у яго цяпліцы-шклярні хутчэй чырванелі памідоры... Каровы лепш выцельваліся, тлусцейшыя свінні рохкалі ў хляве, бульбу не так „стонка” глушыла, жонка Зюнева была харошчая, з круглейшымі сцёгнамі... І, гад, з паўметра ўрэзаўся ў Боркаў панадворак, во як гэты плот стаіць! Да вайны тут плецены з голля плот быў, во тут свой ровар сам Федарко закапаў, каб акупанту не дастаўся. Ліпа расце тут, ну сам няхай кожны гляне. І на картах тут яшчэ значыцца агарод, а не дурныя Зюневы парэчкі! І нямала грошай выдалі сваякі Борка ды Зюня на суды, даказваючы, хто мае рацыю і за кім стаіць самая сапраўдная праўда.

Самі ўжо засталіся са сваім плотам. Абое на пенсіі, здалі дзяржаве свае гаспадаркі. А для чаго так біліся? Каб справядлівасць была, каб сваіх дзяцей не пакрыўдзіць, каб нічога не страціць з бацькоўскае спадчыны, з таго, да чаго вярталіся з далёкага свету! Боркавы дзеці нават у Польшчы не жывуць — дачка ў Францыі, сын у Канадзе, другі сын у Нямеччыне, малодшая дачка за венгерца выйшла. А Зюнеў сын Коля ў Варшаве інжынерам, падземныя пуці будуе, яму бацькоўская хата не была і не будзе патрэбная, нават летам не заглядае, унучкаў не прывозіць; Зюнева дачка ў Нямеччыне чужых дзяцей няньчыць, сваіх у Беластоку мужу пакінуўшы. Не змагла Кастэнцікаў Федарковых і Чортавых ні калектывізацыя, ні камасацыя, ні меліярацыя, ні іншая агітацыя ці „дэмакрацыя”. Сядзяць цяпер абое кожны на сваім кавалачку, які „належыцца” таму хто аддаў зямлю дзяржаве і кожны глядзіць свае „справядлівасці”.

А пушча, якую іхнія дзяды і прадзеды хацелі пад свой бот узяць, памаленьку на іх ідзе: спачатку высылае страж — лазу, альшыну, бярозу, потым ідуць хвойка з ялінай... Крок за крокам лес падступае да пахілага плота.

**Міра Лукша**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніліся мне вельмі прыгожыя, сучасныя, арыгінальныя пабудовы, шматпавярховыя жылыя блокі, дзе мы мелі, ці толькі што атрымалі кватэру. Мы хадзілі па цікавых балконах, лесвіцах, якія былі зверху гэтых будынкаў, глядзелі ўніз — наваколле было прыгожае, навокал дамоў чыста і прыгожа.

**Веська**

Снілася мне вельмі многа сабак — меншых і большых, і зусім шчанючкоў, дагледжаных і прыгожых. Здаецца, яны чакалі ўколаў. Паводзілі сябе добра, не брахалі, некаторыя лашчыліся, але былі заняты сабой, не звярталі на мяне ўвагі.

**Аліна**

Сніцца, што паранена ў мяне нага і моцна цячэ з яе кроў.

**Кацярына**

Веська! Твой сон добры. І дамы, і наваколле былі прыгожыя, усюды было чыста. Прыгажосць і чысціня заўсёды прадвяшчаюць поспех у справах і задавальненне.

Аліна! І твой сон някепскі. Найгорш, калі сняцца злосныя сабакі, якія кідаюцца да цябе, грызуць. Тады можна чакаць свінства ад акружаючых цябе людзей. Твае сабачкі былі дагледжаныя і прыгожыя, а што найважнейшае, былі спакойныя, не брахалі, а некаторыя нават лашчыліся. Былі занятыя сабою і не звяталі на цябе ўвагі, так што, лічу, ты не павінна непакоіцца. Ніхто табе не пагражае ні з боку сяброў, ні знаёмых. Наадварот, бадай будуць даволі мілыя адносіны да цябе.

Кацярына! Спяшаюся цябе пацешыць. Калі ў сне бачыш сябе параненай — так і спадзявайся нейкага прыбытку.

**АСТРОН**

# КРЫЖАВАНКА




**Гарызантальна:** 3. гара ў Грэцыі (2033 м) на паўвотсраве Халкідыкі, 8. зямля над вадою, 9. усходнеафрыканская дзяржава, 10. карлік, 11. памідор, 13. калючы куст, 15. сталовая, 16. рэлігійны аскет, 20. разнавіднасць капусты, 22. танзанская выспа, 23. летні тып жылля ў якутаў, 27. афіцыйна прызнаны каталіцкім касцёлам пераклад Бібліі, 29. абмалочаныя сцёблы, 30. буйная рыба з каштоўным мясам і ікрой, 31. расліна сямейства гарбузовых, 32. дзіця без бацькоў, 33. органы дыхання ў рыб, 34. чалавек без значэння.

**Вертыкальна:** 1. дзень тыдня, 2. загарада для цялят, 4. раздзел мовазнаўства, які вывучае гукі, 5. парадкавы лік, 6. самец авечкі, 7. страта, разрыў сувязі, 12. сярэдняя школа, 14. вялікі індыйскі горад, 16. заступніца навук і мастацтваў, 17. жаночае імя, 18. $H_2O$, 19. моц, 21. не копія, 24. падзел на састаўныя часткі, 25. планета, 26. французскі паэт (1639—99), 27. кіслая вадкасць, 28. пахучая смала.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 10 н-ра:**
**Гарызантальна** Тувалу, блёкат, папрок, вага, Уран, рэферэндум, Газа, Чылі, Эпікур, Каўнас, Аляска.
**Вертыкальна:** тулава, лупа, Блок, атаман, прыгрэбнік, гарэза, Урумчы, „Галька", лірыка, эпас, Урал.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Бэаце Капій** з Любліна.




## Каштан

Чалавек я не вельмі багаты —
Каштан расце каля хаты.
Кажуць: — Каштан без карысці,
Толькі прыгожае на ім лісце.
Кажуць: — Навошта яго гадуеш
І зямлю дарэмна марнуеш?
Пасадзі дрэва пладовае іншае,
У гаспадарцы — не лішняе.
Ды я маю свой сад
З чаго вельмі, вельмі рад.
Дык няхай і другое дрэва расце —
Мо шчасце яно прынясе.
Навошта ж кветкі растуць? —
Таксама пладоў не даюць.
Але яны прыгожыя,
Каляровыя, розныя.
Таксама каштан гэта кветка,
Хутка расце і цвіце ўлетку,
Пры канцы месяца мая
Асыпаны краскамі як у раі.
Пчолкі тут маюць работу:
Апыляюць, гудзяць без ляноты,
Нясуць нектар у кармушкі:
Будзе мёд — цікавая штучка.
Значыць і каштан ёсць карысны,
Як кожнае дрэва — не лішні.
Трэба ва ўсім разабрацца,
З прыродай бліжэй запазнацца.
І хаця я не паэт,
Гадую вялікі, прыгожы букет:
Гэта каштан расцвіў жыва.
Гляджу на яго як на дзіва.

**Мікалай Панфілюк**

# Як цётка Нюрка слёзы лічыла

Аднойчы заехаў я ў апошнюю гасціну да майго старога знаёмага ў мястэчка. Мястэчка тое — трохі большая вёска з пару вуліцамі крыж-накрыж, сваім банкам, „гээсам", чымсьці накшталт рэстарана (старыя наведвальнікі і сёння называюць гэтую ўстанову „гасподай"), школай, піўярняй з працьмай рэклам еўрапейскіх і амерыканскіх сартоў піва, дзе набудзеш аднак толькі „Гербовае", палiклінікай-„пшыходняй" з лекарам сумным ад нуды, могільнікам, царкоўкай ды касцёлам. У такіх мясцовасцях кожны кожнага ведае ад пялюшак да магілкі, знае ўсе справы і нават думкі іншых. Я даўно выбыў з таго мястэчка, але час-часом наведваю яго, хоць бы і таму, каб паглядзець, колькі яшчэ маіх аднагодкаў падтрымоўвае наш гонар жыць. Няма ў мяне яшчэ, праўда, звычкі чытаць газету ад некралогаў ды аб'яў на сценах і платах, ад вестак у чорных рамках, але адчуваю, што такі час ужо набліжаецца, гледзячы па сабе і сваіх знаёмых. Думаю, што адзінае ў такім сумным выпадку можна рабіць — жартаваць з крышачкай лірызму над апошнімі тленнымі справамі з цётачкай Кастушкай. Калі да Яе ўсміхнешся, і Яна сімпатычна выскаліцца да цябе ў адказ. Ну, што ж, — Яна заўсёды шчырая і да ўсіх адносіцца з аднолькавай увагай...

Наведаў я свайго знаёмага, які, на жаль, ужо быў у іншым, не нашым свеце. Яму было ўсё роўна, а нам падрыхтавалі прыём-мярліны. Адвялі мы былі з павагай нашага таварыша і брата. Сядзім, спажываем трызну, хто ўжо цягнецца да кілішка. Жонцы нябожчыка ледзь слёзы абсохлі, дочкі бегаюць, нясуць жывым на сталы страву. Калі б не куцця са свечачкай, падумаў бы хто, што стол нарыхтаваны наймениш на хрэсьбіны калі не на вяселле. Гасцей чалавек з восемдзесят.

Пасадзілі мяне каля адной са шматлікіх сясцёр пакойніка, жанчыны гадоў за шэсцьдзесят, акуратна і з густам апранутай, у чорнае, як усе. Цётка Нюрка ўсё сачыла за парадкам. Дзе хто гучней што скажа ці скрыгітне відэльцам — Нюрка адразу сыкне, заматае галавою, заломіць рукі ды падыме вочы ўверх, шматзначна глядзіць у вочы святога Панцеляймона. А ў момант, калі ўсе пачалі памалу збірацца, пазвала да сябе наймалодшую дачку памерлага.

— Слухай, Ірка, што я табе скажу. Бачу, ты бацьку слаба любіла. Штось ты сёння замала плакала.

Дзяўчына падняла на сваячку чырвоныя вочы і нічога не сказала. А мне, які заўсёды знойдзе слова ў кожную хвіліну, застрагла ў горле ўсё, што мог сказаць і не сказаць. А тады цётка Нюрка з выглядам выпаўніўшай усе абавязкі і правілы ўстала ад стала, пеажагналася, пацалавала пляменніцу і пайшла развітвацца-цалавацца з усімі ўдзельнікамі невясёлага мерапрыемства.

**Вандал Арлянскі**

# Утаплю вас, мама!

У Сашы і Каці было дзве дачкі — Верка і Жэнька. Адна працавітая і паслухмяная, другая — лянівая і злосная. Як у нейкай казцы. Не памаглі ў Жэньчыным выхаванні ні рэмень, ні лаянкі.

Калі ў іхнюю хату заходзілі сваты, бацькі праўду казалі пра характар дзевак. Верку замуж узялі хутка, праз два гады з хаты пайшла і Жэнька. Верка ўмела ўсім дагадзіць у новым доме, а на Жэньку казалі, што чорт не баба.

У час нямецкай акупацыі памерлі Жэньчыны свекры і муж. Засталася яна адна з трыма сыночкамі. Да яе перасялілася маці, каб дапамагчы ў гаспадарцы і пры дзецях (бацька памёр яшчэ ў 1945 годзе). Дачка ўсю цяжэйшую работу ўзваліла на матчыну спіну.

Шмат нашых людзей тады перабралася „на Прусы" — у былую Усходнюю Прусію. І Жэнька рашыла прадаць сваю маёмасць і ехаць туды працаваць.

— Чаго табе туды ехаць?! — спрабавалі пераконваць Жэньку сястра з мужам і маці. — Едуць жа туды такія, каму няма за што жыць, а ў цябе такая добрая гаспадарка! Хлопцы падрастуць, дапамагаць будуць...

— Вы нічога не ведаеце, — крычала Жэнька. — Я вось паеду і зажыву там!

Як сказала, так і зрабіла — прадала гаспадарку і пачала збірацца да выезду. Маці рашыла паехаць з дачкою, хаця Верка прасіла, каб гэта перадумала, бо Жэнька не дацэніць матчыных старанняў.

— Памятайце, мама, Жэнька такі чалавек, што, калі захварэеце, то выкіне вас з дому, каб не заміналі. Не едзьце! — прасіла.

У ПГРы Жэнька пайшла ў даяркі. Маці гаспадарыла дома. У час хваробы маці, дачка рашуча заявіла, што займацца ёю не будзе. Прывяла матку да возера і сказала:

— Вось, калі няма ў вас сілы рабіць, то, давайце, утаплю вас у возеры.

— Ой, дачушка, — расплакалася Каця, — дай мне хоць згаварыць малітву!..

Непадалёк іх мазурка паласкала памытую бялізну. Пачуўшы такую размову, кінула ўсё і схапілася з кулакамі на Жэньку.

— Такая падлюга, гадаўка, дэгенератка! Ты так на родную матку?! Тапіць яе надумала?!

Жэнька ўцякла, а мазурка Ліза забрала Кацю да сябе дадому.

— Я буду вас даглядаць, добрая кабеціна. Сама маму пахавала пяць гадоў таму, будзеце мне як маці. У вашым узросце ўжо адпачываць трэба, не натужвацца. Мае муж і дзеці людзі добрыя, прымуць вас як родную.

Жэнька ніколі не наведала маці ў новай сям'і. Не, цікавіла яе, як жыве і сябе адчувае; добра, што цяжар зваліўся з плечаў.

Папрасіла старая Лізу напісаць пісьмо Верцы. Пакуль прыйшоў адказ, Каця начамі плакала: вось чужыя ўнукі яе бабуняй называюць, людзі іншай веры маюць яе за сваю, а родная дачка...

Верка хутка прыехала забраць маці дадому. Ліза і Роберт не хацелі пусціць старой дахаты, але абяцала пасля наведання роднага кутка, да іх вярнуцца.

— Толькі памятайце, бабуня, прыедзьце абавязкова, не забудзьце, — прасілі Лізіны дзеці.

У Веркі маці захварэла. Не ўставала з пасцелі. Папрасіла дачку напісаць ліст Лізе і яе сям'і, як справы маюцца. Пра Жэньку не ўспаміналa.

Калі прыехала з дзяцьмі Жэнька, маці не было ўжо ў жывых. Сышліся суседкі, каб правесці на той свет нябожчыцу. Жэнька рыдала над целам маці. Раптам адчыніліся дзверы і ўвайшла Ліза з сям'ёй.

— Ой, што тут робіцца? Ты плачаш? Я табе не дазваляю! — крыкнула Ліза. — Сама хацела ўмярцвіць маці, а цяпер — плачаш?! Замоўкні!!!

Жэнька, як апляваная, адышла пад сцяну.

**Аўрора**




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Як была малодзенькай

Зацвітала вішанька,
Як прыходзіў Мішанька.
Мы хадзілі поленькам:
Называў тополенькай.
Называў суніцаю,
Любай чараўніцаю.

Як ішлі дарожанькай,
Называў прыгожанькай,
Белай лебядзіначкай,
Мяккаю пушыначкай...
Быццам параходзікі,
Адплываюць годзікі.

Як была малодзенькай,
Дык была салодзенькай.
Адцвітае вішанька...
Не прыходзіць Мішанька.
Як званочкі, дзетачкі,
Не ў мяне — ў суседачкі.

**Мікола Мінчанка**

## Думкі ўслых

* Цяжка вылечыцца ад хранічнага недахопу грошай.
* Не палохайся цемры. Рассветліць яе фанаром пісьманосец, калі прынясе рахунак за электраэнергію.
* Самы надзейны спосаб вывесці з кватэры мышэй: прымусціць ката, каб перастаў пільнаваць халадзільнік.
* Рыбалку палюбіў бы я пры адной умове: калі б у вадзе быў такі сціск, як на беразе.
* Не спрабуй схапіць арэол. Ён можа стаць абручальным пярсцёнкам.

**Адам Сяменчык**






Мал. М. Шышлова




Не ведаю, Сэрцайка, ці выпадае мне пісаць пра сваіх знаёмых, але мушу гэта зрабіць. Сярод усіх пар, якія я ведала, гэтыя муж і жонка вылучаліся незвычайнай прывязанасцю і згодай. Абое вельмі прыгожыя, маладыя, поўныя радасці жыцця, яны звярталі ўвагу кожнага, хто бачыў іх, як яны ішлі, узяўшыся за рукі. Быў у іх сынок, але ён заўсёды ішоў побач мамы з татам, бо не ён, відаць, быў тут найважнейшы, а іх каханне.

Я асабіста ніколі не бачыла іх пасобку. То разам рабілі нейкія пакупкі, то сядалі ў свой самаход, то сядзелі ў кавярні, папіваючы каву, а хлопчык бегаў каля іх. Была гэта найцудоўнейшая пара з усіх, якія я ведала. Крыху нават была я здзіўлена, што бывае аж такое каханне, а крыху мушу табе прызнацца, зайздросціла. Шанцуе ж вось людзям!

І раптам даведваюся, што ў гэтай сям'і нешта лопнула. Справа наскрозь банальная — жонка закахалася ў іншага, ды закахалася так, што не магла сабе знайсці месца. А той — звычайны лавелас. Не ў галаве яму было жаніцца з якой-небудзь са сваіх знаёмых. Быў кавалерам і лічыў, што яго жонка яшчэ не нарадзілася. А жанчын меў, быццам мурашак у лесе. І да кожнай быў аднолькава мілы. Да кожнай прытуляўся, кожную абцалоўваў, кожнай гаварыў тыя самыя кампліменты. І кожная з іх лічыла, што гэты чалавек кахае толькі яе адну. Меў у сабе нейкі магніт, які беспамылкова прыцягваў кабетак. Не цікавіў яго лёс гэтых жанчын, калі кідаў іх. А амаль кожная з іх мела пасля разбітае жыццё. Замужнія часта разводзіліся, а нават тады, калі была гэта паненка, яна доўга насіла яго ў сэрцы і не магла глянуць на іншага. Але лавелас не перабіраў: былі паненкі і замужнія, бландзінкі і брунеткі, маладзейшыя і старэйшыя. Трэба прызнаць яму адно: заўсёды былі гэта жанчыны нечым цікавыя, не было ў яго сэрцы месца для шэрых людзей.

Дык вось і тая замужняя жанчына з найцудоўнейшай пары, якую я ведала, трапіла на яго кручок. Забылася пра ўсё на свеце: пра мужа і дзіця, пра працу і хатнія абавязкі. Усё гэта рабіла, быццам нейкі аўтамат, бяздумна і неахвотна. Думкамі была ўвесь час з ім. Адпрашвалася з працы і бегла да яго на працу, каб хаця ўбачыць яго. Пытала ўсіх, дзе ён можа быць, калі не застала яго. Калі ехаў у камандзіроўку, распытвала каго магла, ці паехаў адзін, ці з нейкай сяброўкай. Праседжвала гадзінамі ў калідоры яго працы, калі казалі, што выйшаў у горад афармляць нейкія справы. Чакала, каб хаця ўбачыць яго.

Людзі пачалі смяяцца. Яна была не першая і не апошняя. А лавелас забаўляўся. Калі яна сядзела і чакала, ён прытуляўся ўжо да іншай, або прынамсі ачароўваў наступную панечку ў кавярні. Такі ўжо меў характар! Як толькі здабыў каторую, адразу пераходзіў да іншай. А яна не хацела гэтага прыняць да ведама. Усё трымала ў памяці яго чуллівыя слоўцы, рукі, што бессаромна шарылі па яе целе пры калегах, гарачыя вусны. Апрача мужа, з якім пражыла дзесяць гадоў і была яму дагэтуль верная, не было ў яе жыцці нікога, хто б зрабіў на яе такое ўражанне. Свет у яе вачах перавярнуўся дагары нагамі.

Пра ўсё расказала мужу. Зрабілася пекла. Зрэшты, ён ужо і раней заўважыў, што з жонкай нешта дзеецца. Нават сказаў калісь: „Прызнайся, ты нешта перажываеш!" Але тады яна яшчэ не прызналася. Цяпер ён было ўсё роўна. Цвёрда ведала адно: што з мужам жыць не можа! Развялася, хаця муж не надта ахвотна даў развод. Дзіця матаецца між бацькам і маці. Ён ажаніўся з надта прыгожанькай дзяўчынай. А яна — адна. Ці варта было ўсё гэта?

**Магда**

Магда! Тая жанчына, відаць, не ўмела інакш. Калі кахала мужа, была адданая толькі і выключна яму. Калі пакахала іншага, хаця і лавеласа, не ўяўляла сабе, што можа дзяліць пачуцці паміж двума мужчынамі. Можа і кепска яна зрабіла, можа лепш было перачакаць. Страціў жа на гэтым не столькі яе муж, колькі яна сама і іхні сын. Інакш яна, аднак, не магла.

**Сэрцайка**

# Смех у санаторыі

Паліцыянт падыходзіць на вуліцы да Кавальскага:

— Што, Кавальскі, шпацыруем сабе па вуліцы з сабачкаю, а падатку за сабачку не плацім. Скіраю вас на калегію.

— Чаго вы ад мяне хочаце?! Гэта не мой сабака — ідзе сабе нейкі за мною, вось і ўсё.

Паліцыянт, аднак, пастанавіў перахітрыць Кавальскага. Падаўся пад яго дом і, калі Кавальскі вяртаўся, выходзіць з-за дрэва:

— Ну і што?! Гаварылі, што гэта не ваш сабака! Дык чаму ён ідзе ўсю дарогу за вамі?

— А хто яго знае. Прычапіўся да мяне так як і вы.

* * *

Савецкія калгаснікі наведалі польскі пэгээр.

— Колькі важыць гэтая свінаматка? — пытаюць госці дырэктара.

— Нейкую чвэрць тоны.

— У нас, у Савецкім Саюзе, свінаматкі важаць сама менш паўтоны.

Ідуць далей.

— А колькі важыць гэтая ялаўка?

— Будзе з паўтоны.

— У нас, у СССР, ялаўкі важаць сама менш тону.

— Пайшлі ў поле і ўбачылі крата.

— Што гэта такое?

— Блашчыца, — сказаў дырэктар.

— О, у нас, у СССР то яны не такія вялікія, але затое іх мільёны.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

*Сцяпан Абух*

# З запісаў нацыяналіста

### 14. Сімпсан Бульдозер

Тры рэчы ў жыцці Сімпсана Бульдозера пахлі рыбай: адной з іх была рыба, а другой — ён сам. Бульдозер працаваў нейкі час у аптаўка пры рыбах. Быў ён чалавекам самавітай постаці, але пазбаўленым характэрнай таўсцякам нерухавасці. Наадварот, жанчыны ўважалі, што Бульдозер надзвычай лёгкі і зграбны ў танцы. Бульдозер адною рукой мог спакойна курыць цыгарэту, а другой трымаць пень дрэва на плячы. Калі заходзіў аднак у офіс „Гоняў", адразу станавіўся там цесна і душна.

Бульдозер — гэта страсны раздзел зонаўскай гісторыі. Згодна зонаўскаму прынцыпу, паводле якога зонавец павінен займацца выключна зонаўскай справай, Сімпсан належаў да некалькіх арганізмаў Зоны і, можна смела лічыць, прынамсі ў адным быў прэзідэнтам. А стаў ён ім, калі Таварыства „Давайце падзейнічаем" апынулася ў крытычным пункце.

Таварыства „Давайце падзейнічаем" прыдумалі Лацыс Даўжэня і Рубенс Валілка Другі. Першы выкрышталізаваў ідэю, а другі прыдаў ёй канчатковую эстэтычную форму. Абодва яны ўлажылі шмат намогі і сэрца ў гэтую справу — тым большым аднак быў іхні боль і расчараванне, калі малады дзейнікі Таварыства „Давайце падзейнічаем" паказалі сваім апекунам *А во вам! Мы самі ўмеем ужо дзейнічаць!* Яны п'янстваваллі, кідалі нажом у дрэва, тлумілі дзевак, якіх пачаткова не хацелі прыняць у свае рады ды горда казалі пра сябе: *Мы — эліта.*

Першым прэзідэнтам Таварыства „Давайце падзейнічаем" быў Альфік Майнкампф — супрацьстаўнасць Сімпсана Бульдозера. Альфік Майнкампф, хоць і курыў цыгарэты, але напэўна не ўтрымаў бы адначасна дрэва на плячы. Альфік Майнкампф, як і кожны зонавец, меў сваю сакрэтную страсць — любаваўся ва ўсялякіх кнігах недвухсэнсавага зместу і рэпутацыі. Аднаго разу, прабываючы ў Замбара, даў ён інтэрв'ю для „Замбара Трэйшан Ньюс Манцлі" (*ангель.:* Zambaro Trasian News Monthly), у якім горда заявіў, можа крышку здзекліва, што *ў вас напэўна няма такіх кніг, якія я маю на сваёй паліцы ў Зоне.* Ён меў тут на ўвазе адмысловае выданне „Агульна Абавязваючых Прынцыпаў Любагорска" з паралельным тэкстам пародыі гэтых жа „Прынцыпаў".

Таварыства „Давайце падзейнічаем" за справай гэтага выказвання апынулася ў крытычным пункце. Склікаы быў нечарговы з'езд арганізму. Праходзіў ён у абсалютнай заканспіраванасці — Рынгебольда Хахло і ўсе пракуратуры Любагорска разасалі лісты за Альфікам Майнкампфам. У зале аж гудзела — жаночая частка Таварыства дастала істэрыкі, дзеўкі рвалі сабе валасы і скакалі з кіпцікамі на Альфіка. Доступу да яго бараніла аднак гвардыя дзейнікаў у чорных формах Таварыства. Здавалася, што ніякая разумная нарада ўжо не атрымаецца...

І тут жа ў зале з'явіўся Сімпсан Бульдозер. Ён не ўвайшоў, не ўваліўся, не забег, а проста — з'явіўся. Усё ў адну хвіліну замёрла. У памяшканні ўсталяваўся пах рыбы. Сімпсан балючым зрокам агарнуў сітуацыю, а галава ягоная, мабыць, таксама загудзела — ад перапою. У адной руцэ трымаў ён валізачку з чорнай шкуры. Другую крышку ўзняў і прамовіў.

— Хвілюня!

Сабраныя паглядзелі па сабе пытальна. Бульдозер рушыў у кірунку прэзідыяльнага стала. Першым зрэагаваў Альфік Майнкампф. Выскачыў з-за застолля, натапырыўся, зрабіў некалькі падскокаў, ізноў натапырыўся — бараніў доступу да прэзідыяльнага стала. Але Бульдозер свабоднаю рукой толькі нацэліў у яго свой велічны палец і сказаў адно слова.

— Насраў! (*націск на першым складзе*)

Сведкі пазней расказвалі, што Альфік быццам паслухаўся Сімпсана балазе ў зале ўсталяваўся цалкам іншы пах.

Сімпсан Бульдозер з відавочнаю палёгкай сеў за пусты прэзідыяльны стол, кінуўшы на яго чорную валізачку. Расшпіліў на грудзях такога ж колеру куртку. Пад палою, на шлейках, загайдаўся забойны Smith &Wesson. Бульдозер адчыніў валізачку і паглядзеў на траста трыццаць тры мільёны палюбоўнікаў, але не навяло яго гэта на ніякую думку. Балючым зрокам павёў па зале і сказаў найдаўжэйшую сваю прамову:

— Ну то давайце падзейнічаем...